

Ветракі над Бобрай → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




Жыццё да і пасля смерці → 9

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 22 (3081) Год LX | Беласток, 31 мая 2015 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Фестываль пяючай душы



Арганізатары і журы фестывалю, злева направа: Мікола Бушко, Ірэна Парфянюк, Юры Шурбак, Яўгеній Усцінскоў, Лэся Дычко, Рамуальд Твардоўскі, Дымітр Дымітраў, Бажэна Савіцкая і Анатолій Кісялёў

**У днях 19-24 мая 2015 года адбыўся ў Беластоку XXXIV Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі „Гайнаўка-2015". Ганаровы патранат над фестывалем трымаў Прэзідэнт Рэчы Паспалітай Браніслаў Камароўскі, а мастацкі патранат — маэстра Кшыштаф Пэндэрэцкі. У ліку галоўных патронаў фестывалю былі таксама міністр культуры і нацыянальнай спадчыны РП Малгажата Аміляноўская і прэзідэнт горада Беластока Тадэвуш Трускаляскі. Фестываль адкрыла выкананне гімна „Gaude Mater Polonia" ў выкананні пераможцы мінулагодняга выпуску фестывалю ў катэгорыі свецкіх хароў — хору беластоцкага Маладзевага дома культуры ды сціхіры „Зямля руская" ў выкананні мінулагодняга лаўрэата Гран-пры — кіеўскага камернага хору „Сафія" Нацыянальнага саюза кампазітараў Украіны.**

Журы сёлетняга фестывалю склалі праф. Рамуальд Твардоўскі з Варшавы, праф. Лэся Дычко з Кіева, праф. Бажэна Савіцкая з Беластока, дац. Дымітр Дымітраў з Сафіі, д-р Яўгеній Усцінскоў з Даўгаўпілса, Анатолій Кісялёў з Масквы і а. Юры Шурбак з Варшавы. Інаўгурацыйны канцэрт, прысвечаны прафесару Рамуальду Твардоўскаму з нагоды яго 85-годдзя выканаў згаданы раней хор „Сафія" з Кіева. На сёлетні выпуск былі запрошаны 25 хароў з Еўропы і Азіі, прыехала, аднак, на тры менш. Да конкурснага выканання былі заяўлены каля ста сямідзесяці твораў з розных эпох аўтарства каля сямідзесяці кампазітараў. Галоўнае мерапрыемства адбывалася ў Беластоцкай філармоніі; апрача гэтага адбыліся яшчэ канцэрты ў Варшаве, Бельску, Люславіцах, Белавежы, Тыкоціне і Міхалове.

Адкрыццё фестывалю ўдастоілі ганаровыя госці, галоўным з іх быў маршалак Сената Рэчы Паспалітай Багдан Борусэвіч.

Віцэ-прэзідэнт Беластока Рэната Пшыгодзка, якая адкрыла фестываль, у кароткім прывітанні падкрэсліла, што царкоўная музыка дазваляе ўбачыць душу іншага чалавека і прыгажосць акружаючага нас, не заўсёды мірнага, свету.

Ініцыятар і дырэктар фестывалю Мікола Бушко зачытаў віншавальныя лісты юбіляру Рамуальду Твардоўскаму ад міністр культуры РП Малгажаты Аміляноўскай, ад Саюза польскіх кампазітараў. Ліст ад Саюза кампазітараў Украіны зачытала сакратар СКУ, Лэся Дычко, дадаючы, што жыхары Беластока павінны ганарыцца тым, што фестываль адбываецца менавіта тут, у прыгожым як сад месцы. Падзякавала яна таксама Міколу Бушко і Ірэне Парфянюк за арганізацыю мерапрыемства, якое яна назвала ружай харавой музыкі, якая найпрыгажэйшая ў свеце. Дарэчы, Рамуальд Твардоўскі ўшаноўваецца не толькі ў Польшчы; як паведаміў Анатолій Кісялёў, летась адбыўся адмысловы фестываль у Балгарыі, прысвечаны творчасці сёлетняга юбіляра, дзе ўсе ўдзельнікі выконвалі яго творы.

У катэгорыі прыхадскіх хароў першае месца журы фестывалю прысудзіла мужчынскаму хору „Сімвал веры" Троіцкай царквы з Варонежа (Расія). Другое месца — хору духавенства Дубнянскага дэканата Украінскай праваслаўнай царквы з Дубна. Два раўнапраўныя трэція месцы хору „Schola Cantorum Maximilianum" з Юзэфава (Польшча) і хору Сабора нараджэння Прасвятой Багародзіцы з Оршы.

У катэгорыі свецкіх аматарскіх хароў пераможцам стала Народная харавая капэла „Раніца" з Мінска. Два раўнапраўныя другія месцы занялі хор „Megiddo" з Ізраіля ды хор „Словікі-60" са Шчэціна (Польшча). Трэцяе месца прысуджана хору „Ангел Манолаў" з Сафіі (Балгарыя).

У катэгорыі дзіцяча-маладзёжных хароў першым стаў хор Музычна-харавога цэнтра „Лель" з Зялёнаграда-Масквы (Расія). Другое месца хор „Collegium Juvenum" з Ольштына пад кіраўніцтвам ураджэнкі Беласточчыны Іаанны Мусько. Трэцяе месца прысуджана Маладзёжнаму камернаму хору „Vaimustus" з Нарвы (Эстонія).

У катэгорыі музычных вучылішчаў перамог камерны хор Музычнай акадэміі з Катавіц (Польшча). Другое месца прысуджана хору „Освіта" педуніверсітэта з Цярнопаля (Украіна). Трэцяе месца заняў хор „Concertino" з Мінска.

У катэгорыі прафесіянальных хароў два раўнапраўных першых месцы журы фестывалю прысудзіла камернаму хору Дзяржаўнай філармоніі з Чалябінска (Расія) і хору Нацыянальнага радыё Украіны з Кіева. Другое месца заняў хор Чанстахоўскай філармоніі „Collegium Cantorum" (Польшча).

Паводле зачытанага меркавання журы, узровень сёлетняга фестывалю быў вельмі высокі, а дыяпазон яго ўдзельнікаў заслугоўвае павагу. Радуе прысутнасць шматлікай публікі ў ходзе ўсіх канцэртаў. Гэта сведчыць пра вялікую папулярнасць царкоўнай музыкі сярод усіх катэгорый выканаўцаў. Гэта пацвярджае важную ролю фестывалю, які з'яўляецца пластом паразумення пакаленняў, культур і народаў. Журы сардэчна дзякуе арганізатарам за вялікую працу, выкананую ў карысць чарговага выпуску фестывалю, асабліва ж дырэктар Арганізацыйнага бюро Ірэне Парфянюк і дырэктару фестывалю Міколу Бушко. Радуе і тое, што фестываль „Гайнаўка-2015" карыстаецца адабрэннем і добразычлівай падтрымкай вярхоўных дзяржаўных улад, гарадскіх і ваяводскіх ды медыяў і іншых устаноў. Заслугоўвае ўвагі інаўгурацыйны канцэрт, прысвечаны Рамуальду Твардоўскаму з нагоды яго 85-гадовага юбілею. Маладыя ўкраінскія выканаўцы з кіеўскага хору „Сафія" паказалі высокі ўзровень вакальнага мастацтва, пацвярджаючы гэтым званне лаўрэата леташняга выпуску фестывалю. Журы павіншавала спадара Рамуальда Твардоўскага з адмысловай узнагародай міністра культуры і нацыянальнай спадчыны РП ды ордэнам Нацыянальнай музычнай акадэміі ў Кіеве, якім адзначаюць выдатных творцаў у галіне музычнага мастацтва. Гэтай узнагароды ўдастоены таксама дырэктар фестывалю Мікола Бушко. Журы мяркуе, што сёлетнія канцэрты напэўна захаваюцца ў памяці меламанаў як выключная падзея ў мастацкім і духовым маштабе.

Фестываль завяршыў гала-канцэрт яго ўдзельнікаў у беластоцкай філармоніі.

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА





# Зазамбаваныя

Тое, што адбылося на фінале чэмпіянату свету па хакею, шакаваная сусветная прэса ўжо назвала грандыёзным скандалам, які не мае аналагаў. Большасць гульцоў каманды Расіі дэманстратыўна пакінулі пляцоўку ў той момант, калі ў гонар пераможнай каманды гучаў гімн Канады. На старонках прэсы ўзнікае адно лагічнае пытанне: хто, як не гэтыя мужныя спартоўцы, мусіць паважаць сваіх супрацiўнікаў, што ў чэснай барацьбе былі мацнейшымі? Нічога падобнага, маўляў, у гісторыі сусветнага спорту яшчэ не было.

Але толькі на першы погляд здаецца, што не было. Аналагі знайсці можна. Калі ва ўсім вінаваціць выключна хакеістаў, то можа сапраўды гэта першы такі выпадак. Але хакеісты ўжо выказалі шкадаванне са сваіх паводзін і самі не могуць зразумець сапраўдных прычын гэтага ганебнага ўчынку. Ну, прайгралі, да таго з ганебным лікам, але ж не першы раз такое. І раней ніхто з іх пасля пройгрышу не апускаўся да такога, каб зняважыць гімн пераможцаў.

Але тое было раней да таго, калі яшчэ не стралялі іншадумцаў пад сценамі Крамля, не называлі ўкраінцаў жыда-бандэраўцамі, не адбіралі ў суседзяў іх тэрыторыі, не абзывалі цывілізаваны свет русафобамі і не палохалі планету ядзерным ударам... А вось зараз разгул антычалавечай прапаганды, які патокам ліецца на галовы расіян, пачаў прыносіць свае вынікі паўсюдна. Ва ўсіх сферах. І нарэшце дабраўся да спорту.

Самі хакеісты можа нават і не зразумелі ў той момант, што яны нарабілі. Іх пройгрыш забудзецца пасля першай іх перамогі, а ганьба іх паводзін застанецца ў памяці назаўсёды. Толькі вось тая інфармацыйная зазамбаванасць, якой падвяргаюцца з усіх расійскіх радыёстанцый і тэлеканалаў штодзённа, спрацавала аўтаматычна, абмінуўшы іх розум, логіку, сэрца, сяброўства, мужнасць, гонар ды іншыя шляхетныя пачуцці, і сканцэнтравалася выключна на гордасці. На той гордасці і нянавісці, якой сёння атручваюць кожнага расіяніна. І спартовец не выключэнне. Наадварот, спорт — першая мішэнь, бо ён у прапагандзе займае не апошняе месца.

Некалі Адольф Гітлер выкарыстоўваў спорт, каб паказаць перавагу арыйскай расы над іншымі. На берлінскай алімпіядзе 1936 года, пацiскаючы рукі пераможцам, ён абмінуў славутага чарнаскурага амерыканца Джэсі Оўэнса, які выйграў ажно чатыры залатыя медалі ў бегу і скоках. (Вось вам і аналаг знявагі пераможцаў). Абмінуў і некаторых іншых, дэманстратыўна віншуючы толькі тых, каго ён сам палічыў арыйцамі.

Што здарылася пазней — вядома ўсім. Услед за спартоўцамі перавагу яго расы прыйшлося даказваць салдатам. Ад спартовага скандалу да вайсковага адлегласць аказалася не такая ўжо і вялікая, бо вынікі ілжывай прапаганды трэба выкарыстоўваць хутка. Хлусня доўга не жыве. Праўдзівая інфармацыя даходзіць да людзей паступова, таму вынікі хлусні заўсёды выкарыстоўваюць імгненна, пакуль у іх вераць зазамбаваныя носьбіты ілжывай інфармацыі. А замбаванне ў гэты час набывае ўсё большыя нялюдскія формы.

Вось, напрыклад, два расійскія жаўнеры, якія на Данбасе былі паранены і трапілі ў палон, вельмі ўпрошвалі ўкраінскіх хірургаў, каб тыя рабілі ім аперацыі без наркозу. Яны баяліся, што ўкраінцы ўкрадуць у іх ныркі ды вантробы ды прададуць на Захад. Вось такі ровень прапаганды ўжо замбуе расіян. Ужо зазамбаваў! А вы здзіўляецеся ўчынку хакеістаў расійскай зборнай па хакеі?!

Усё гэта можна было б і не ўзгадваць у беларускамоўным СМІ, каб не адна акалічнасць. Тая прапаганда, якую выліваюць на расіян, часамі бокам, а бывае і наўпрост, выліваецца і на галовы беларусаў. І замбуе іх гэтак жа, як і рускіх. Зараз, калі незалежную беларускамоўную прэсу можна лічыць знішчанай, а адпаведнае беларускае міністэрства, ужо зачысціўшы ўсё што мажліва ад альтэрнатыўнай думкі на сваёй тэрыторыі пачынае прысылаць папярэджанні Беларускаму Радыё Рацыя ажно за мяжу, беларуская інфармацыйная прастора знаходзіцца ў палоне расійскай прапагандысцкай машыны. І што надумае зазамбаваны такой прапагандай беларус, прадказаць цяжка. Адно зразумела, што нічога добрага.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Некалькі слоў

## аб прэзідэнцкіх выбарах, або аб перавагах гайнаўскага сыру



Ну, і маем катастрофу! У нядзельных выбарах на пасаду прэзідэнта Польшчы перамог кандыдат Дуда! Ва ўсякім выпадку, калі б выйграў у галасаванні яго палітычны апанент, не было б інакш. Таму што катастрофа была ўпісана ў рыторыку абодвух ваюючых палітычных груповак, ГП і ПіС. Падтрымліваныя імі кандыдаты ў прэзідэнты ў роўнай ступені спакушалі выбаршчыкаў сваім баччаннем Дзяржавы моцнай, справядлівай, надзейнай у дачыненні да грамадзян. Гэта ў выпадку іх выйгрышу. Або палохалі Дзяржавай паўшай, збітай, лодырскай — у выпадку сваёй паразы. Больш ці менш свядома абодва кандыдаты былі вінаватыя ў славеснай распусце, размываючы межы ў свядомасці шырокай грамадскасці паміж тым, што такое перамога і параза, што з'яўляецца праўдай, а што хлуснёй, што — дабром, а што злом. Замест выбіраць паміж сваімі светапоглядамі, ідэалогіямі або філасофіяй кіравання, і Камароўскі і Дуда вымусілі на разгубленых грамадзянах... прысуд. Не выбар! Такой логікай тая частка электарату, якой кандыдат на выбарах на пасаду прэзідэнта прапаў, стане ахвярай Рэчы Паспалітай імі самімі збітай і прыніжанай. Толькі што такі вырак не будзе мець нічога з Саламонавым рашэннем....

Ці раздзел Польшчы на два антаганістычныя светы, на дзве ідэалагічныя або раз'ятраныя ў сваіх мімалётных бачаннях уявы, мае спраўдзіцца ў анатамічным расчэнні?! І як да гэтага маюцца польскія грамадзяне — беларусы, украінцы і літоўцы, званыя таксама меншасцямі? На чыім баку палітычнага трупка яны павінны аказацца? Але ж не тое мёў на ўвазе згаданы ў біблейскай кнізе Царстваў Саламон, дзе спрэчка дзвюх наложніц, якія прад'яўляюць правы мацярынства на нованароджанае дзіця, вырашыў радыкальным чынам. Ён загадаў малечу рассячы мячом, ведаючы загадзя, што жанчына па клічу мацярынства гатова адмовіцца ад права на дзіця, чым дазволіць яго забіць. І гэта незалежна ад таго, ці яна была яго натуральнай маці, ці не.

Назіраючы за рэчы-паспаліта-польскім канфліктам, якога бенефіцыянтамі з'яўляюцца на гэты час дзве найважнейшыя палітычныя партыі — партыі ўзаемнай спрэчкі быццам бы за светапоглядныя прынцыпы, я хацеў бы тут і цяпер, эмацыйна, магчыма, занадта шматслоўна, але ж проста і сумленна, фыркнуць. Вядома, па майму разуменню мозгу заселага ў жорсткай хватцы чэрапа. Фыркаю на такую Рэч Паспалітую, якая была прысвоена прысутнымі ў польскай палітыцы партыямі. Я падкрэсліваю, што яны маюць, у агульнай складанасці, толькі крыху больш за сто тысяч актыўных членаў. Фыркаю таксама на іх палітычнае махлярства, якое паказваецца ў дыктацы іхняй партыйнай ідэалогіі над грамадзянскім зместам. Таксам рашучае «Не!» кажу Кукізавай кантрабандзе, якая сваёй 20-працэнтнай выбарчай выхадкай нагадвае дыстыляваную ў падпольных самагонных заводах віскі, якой падчас сухога закона ў ступар напіваліся амерыканцы, нягледзячы на тое, што яе напалову разбаўлялі цёплай вадой з-пад крана. Калі ласка, звярніце ўвагу, як толькі лёгка і ГП, і ПіС прынялі галасамі сваіх кандыдатаў у прэзідэнты не вельмі цвярозую ідэю Кукіза пра выбарчы закон на аснове аднамандатных акруг (АМА). Ужо няхай, што яго нібыта антысістэмнае патрабаванне наконт АМАў верагодна ўмацавала б палітычную сістэму Двоеўладдзя — ГП і ПіС. Ну і хай, што паднятая ім канцэпцыя рэферэндумнага грамадзянскага суверэнітэту над усемагутнасцю кіруючага Дзяржавай двоеўладдзя, у Польшчы, дзе яно хоча ажыццяўляць адзінаўладдзе душ, неймаверная. Ну і хай, што незалежна ад гэтага была Двоеўладдзем з энтузіязмам і крывадушна... прынята, што мы пачулі ў заявах прадстаўляючых яе Камароўскага і Дуды. Дазвольце мне нагадаць, што ў апошняе дзесяцігоддзе, якую сабе поўнасцю прысабечыла, Двоеўладдзе дапусціла толькі да аднаго, на самой справе малазначнага, рэферэндуму. Усім астатнім, патрабаваным грамадствам, эфектыўна зламала карак. Пажывем, пабачым, што прынясе нам наступнае дзесяцігоддзе. Ці будзе яно ў роўнай ступені катастрофным для польскіх грамадзян, так як мінулае? У любым выпадку, пакуль гайнаўскі малочны кааператыў выробляе свой «Царскі» сыр, я ў змозе адчакаць яшчэ дзесяць гадоў страхаў і расчараванняў. І жадаю самага смачнага сыру ўсім! А Двоеўладдзю — совяю дулю!

**Міраслаў ГРЫКА**



**Вачыма еўрапейца**

# Перад «Усходам культуры»

Павольна падыходзіць сёлетняе выданне фестывалю «Усход культуры», падрыхтаванае ў трэці раз у рамках сумеснага праекта трох польскіх гарадоў усходняй Польшчы. Пачнецца 25 чэрвеня ў Жэшаве, у ліпені адбудзецца ў Любліне, і 27-30 жніўня — у Беластоку, тут традыцыйна ўжо як «Усход культуры — Іншае вымярэнне». Як і раней, яго асноўная ідэя заключаецца ў інтэграцыі мастацтва Беластока, Любліна і Жэшава ды мастакоў з краін Усходняга партнёрства: Арменіі, Азербайджана, Беларусі, Грузіі, Малдовы і Украіны. Падзеі (канцэрты, кінапаказы, выставы, семінары і г.д.) усюды бясплатныя і арганізаваная ў рамках праграмы «Даступная культура» Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны. З гэтай нагоды ў сядзібе Польскага агенцтва друку ў Варшаве 20 мая задумшчык фестывалю і яго суарганізатар — якраз МКіНС і яго падведамасная ўстанова Нацыянальны цэнтр культуры (НЦК непасрэдна адказвае на цэнтральным узроўні за гэтае мерапрыемства, у прыватнасці, фінансава) — арганізавалі прэс-канферэнцыю. У ёй прынялі ўдзел міністр культуры Малгажата Аміляноўская, дырэктар НЦК Кшыштаф Дудэк і прэзідэнты трох гарадоў-удзельнікаў праекта, у тым ліку прэзідэнт Беластока Тадэвуш Трускаляскі. Спадарыня міністр пераконвала:

— «Усход культуры» паказвае, што Люблін, Жэшаў і Беласток гэта гарады сапраўды ў першай лізе найбольш важных польскіх культурных цэнтраў і ў плане культурных прапаноў і падыхтовачных магчымасцей у нічым не адстаюць ад іншых гарадоў. Наадварот, яны могуць з вялікім запалам стварыць інавацыйныя праекты.

Кожны год згаданы фестываль прысвечаны аднаму геаграфічнаму рэгіёну з улікам краін Усходняга партнёрства. Сёлета мае быць ім Арменія і спасылка праз мастацкія сродкі ў трох гарадах на стагоддзе генацыду армян. У ходзе канферэнцыі коратка былі прадстаўлены прапановы сёлетняга фестывалю. Гражына Дваракоўская, якой кіраваны Беластоцкі асяродак культуры (БОК) займаецца асноўным і арганізацыйным бокам «Усходу культуры — Іншага вымярэння», так як і яе калегі з Любліна і Жэшава, пералічыла некаторыя падзеі, якія будуць адбывацца ў рамках фестывалю. Можна будзе ўбачыць выставу «Наша нацыянальнае цела» і «Збор» з удзелам артыстаў з Украіны, Беларусі і Арменіі. У сваю чаргу, праект «Патройны партрэт — Triple portrait» з удзелам фатографаў з Польшчы, Украіны і Беларусі будзе суправаджацца семінарамі і выставамі. Тэатр Харэя пакажа спектакль «Гільгамеш». Будуць мець месца вялікія канцэрты з аранжыроўкай армянскай, клезмерскай і балканскай музыкі. Адбудзецца таксама, сярод іншага, аратарыйны канцэрт «Ізраіль у Егіпце», а галоўны кантар сінагогі з Санкт-Пецярбурга выступіць у тыкоцінскай сінагозе, дзе будзе паказаны «Дыбук», першы польскі поўнаметражны фільм на мове ідыш. Усяго ў беластоцкую частку фестывалю ўключаны 20 арганізатараў, будзе прадстаўлена больш за 40 мерапрыемстваў, на якія збярэцца больш за 400 мастакоў.

Прэзідэнт Трускаляскі ў час свайго выступлення заявіў:

— Беласток з'яўляецца шматнацыянальным горадам, шматканфесійным. У сувязі з гэтым мы хацелі б прасоўваць, падкрэсліваць тыя нашы карані. Там (г.зн. тут, у Беластоку — М. Х.) жылі на працягу многіх стагоддзяў яўрэі, украінцы, татары, рускія, і думаю, што спрычыняліся да сённяшняга вобліку Беластока, і мы павінны памятаць аб тым (...). У гэтым годзе мы таксама будзем падкрэсліваць, што да Другой сусветнай вайны пяцьдзясят адсоткаў беластоцкай грамады складалі габрэі і пакінулі яны пасля сябе вялікую спадчыну.

Беларусаў прэзідэнт не згадаў, а яны ж сумесна стварылі і сумесна ствараюць вобраз горада не толькі таму, што яны колькасна з'яўляюцца набуйнейшай меншасцю тут, аб чым спадар прэзідэнт, верагодна, толькі (?) забыўся, таму што я не веру, што наўмысна яе абмінуў. Тым не менш, гледзячы на план праграмы беластоцкай часткі «Усходу», складваецца ўражанне, што на гэты раз, падкрэсліўшы яўрэйскія тэмы і «зверху» армянскія, беларуская культура (і тутэйшая, і тамашняя) будзе адкінутая на задні план і, як і падчас леташняга выпуску, якi праходзіў пад лозунгам «беларускасць», будзе выштурхоўваца на абочыну падзеі. Але я ўжо ведаю, што напэўна выстава «Збор», падрыхтаваная галерэяй «Арсенал», адкрыццё якой адбудзецца ў рамках фестывалю, у беларускім кантэксце стане важнай падзеяй.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Ветрастанцыя ў даліне Бобры



**У гміне Новы Двор ля вытокаў ракі Бобры плануецца пабудова каля сарака ветракоў. Хаця гміна спадзяецца на гэтым зарабіць, экалагічныя арганізацыі з непакоем прыглядаюцца інвестыцыі. Супраць планаў гміны таксама цвёрда выступае частка мясцовага насельніцтва, якой актывісты пагражаюць перадаць справу ў суд.**



https://www.facebook.com/biebrzaiwiatr/photos/gm.1181544988529151/1036990099626 30/?type=1&theater

— Пытанне ветраэлектрастанцыі не з'явілася сёння. Ад трох гадоў працягваюцца бурлівыя спрэчкі вакол гэтай інвестыцыі. Прадпрыемства „Eko Energia” дамовы з землярobамі, на чыіх палетках мелі б стаяць турбіны, падпісвала ўжо ў 2012 годзе. Тыя, цягам некалькіх месяцаў, атрымлівалі грошы за арэнду зямлі. Аднак па невядомых прычынах інвестар, які закрыў свой офіс у Новым Двары, ад некалькіх месяцаў не плаціць грошай, — кажа Ян Макарэвіч. — У майго сына меў стаяць вятрак. І праўда, цягам двух гадоў даставаў ён грошы, але нядаўна ўжо справа прыціхла і грошай няма.

Як падкрэслівае сакратар Навадворскай гміны Станіслаў Грынкевіч, людзі цярпліва чакаюць рашэння інвестара.

Тыя, з якімі былі падпісаныя дамовы, не бунтуюцца. Наадварот, кожны спадзяецца на тое, што ветравая ферма паўстане. Кожны хоча быць тым шчаслівым чалавекам, які штомесячна будзе даставаць 4 тысячы злотых за арэнду зямлі пад ветраком.

— Дакладна 4 тысячы — столькі грошай будзе атрымліваць кожны, на чыім полі паставяць вятрак. Вядома, гэтым пакарыстаюцца і гміна, і яе жыхары. У 2012 годзе больш чым соткаў уладальнікаў участкаў былі падпісаны папярэднія дамовы з інвестарам на арэнду, — кажа Станіслаў Грынкевіч.

— Грошы гэта вырашальны аргумент, — падкрэслівае спадар Станіслаў з Хільмонаў. — Кожны хоча, каб на яго палетку быў пабудаваны вятрак. Для мяне няма розніцы, тут гаспадароў амаль не засталося. Ніхто нічога не мае з гаспадаркі, а мая палоска доўгая. Як хочуць два нават могуць паставіць. За такія грошы нам не аплачваецца ні араць, ні сеяць.

На тэрыторыі гміны Новы Двор мелі б паўстаць тры ветравыя фермы: на поўдні (Плебанаўцы, Кудраўка, Сынкоўцы), поўначы (Хільмоны, Канюшкі) і ўсходзе (Новы Двор, Хварасцяны, Серуцяўцы). Разам было б 36 ветракоў агульнай магутнасцю 130 мегаватаў. Пабудове такой колькасці ветракоў рашуча супраціўляецца частка жыхароў гміны. Адны баяцца, што ветракі дрэнна паўплываюць на здароўе, другія тлумачаць, што эфектыўнасць ветракоў на гэтай тэрыторыі будзе нязначная.

— Нікому з гэтага няма дабра, — кажа Павел Грабінскі, гаспадар з Серуцяўцоў. — Такі вятрак мае стаяць два кіламетры ад будынкаў. Паставяць дзесьці непадалёк і нам стрымаюць усё. На той прыклад, будавацца не будзе магчымасці, а мо хтосьці хоча разбудаваць хлеўню, ці пабудаваць хату. Супольна з суседзямі справу пададзім у суд.

Ветраэлектрастанцыі прыглядаюцца таксама і эколагі, якія бачаць небяспеку для аховы прыроды ў такім каштоўным месцы. Праўда, ветракі не былі б пабудаваныя на тэрыторыі Бобранскага нацыянальнага парку, аднак, як падкрэслівае Адам Богдан з „Майстэрні ў карысць усіх жывёл”, гэта і так вялікая пагроза для розных відаў ахоўваных птушак.

— Месца, дзе плануецца паставіць ветракі, важнае беручы пад увагу маршруты пералёту птушак. Трэба звярнуць увагу на тое, што ў апошніх гадах Еўрапейская камісія, дакладна праграма „LIFE+”, перадала 5 мільёнаў еўра на рэалізацыю вялікага праекта па ахове гнёздаў водна-балотных птушак у даліне Бобры, а таксама па фінансаванні турызму на гэтай тэрыторыі.

Паводле эколагаў з „Майстэрні ў карысць усіх жывёл” у гэтым выпадку выразна відаць супярэчнасць інтарэсаў. З аднаго боку падтрымліваецца фінансаванне аховы прыроды ў даліне верхняй Бобры, з другога — плануецца ставіць ветракі, якія, на думку эколагаў, знішчылі б не толькі краявід, але былі б пагрозай для рэдкіх відаў птушак. Аднак такія аргументы не пераконваюць улад гарадка, якія ў ветрастанцыі бачаць адну магчымасць функцыянавання гміны.

— Ветракі не былі б пабудаваны на тэрыторыі Бобранскага нацыянальнага парку. Хачу адзначыць, што на тэрыторыі гміны няма ніводнай турыстычнай сядзібы. Ветракі гэта адзіны шанц існавання гміны і лепшага жыцця яе жыхароў — рашуча падкрэслівае сакратар Станіслаў Грынкевіч.

У сацыяльных сетках з'явілася петыцыя супраць будаўніцтва ветравых ферм у Новым Дварь. Яе аўтары хочуць спыніць інвестыцыйны працэс. На фейсбуку таксама паўстаў профіль, на якім інтэрнэт-карыстальнікі могуць выказаць свае погляды ў дачыненні да ветрастанцыі. Мадэратары профілю цвёрда выступаюць супраць пабудовы ветракоў у даліне Бобры. Пішуць: **„Nie każde miejsce nadaje się pod takie inwestycje. A to które zostało wybrane w Gminie Nowy Dwór nie nadaje się do tego zupełnie. Jeśli te farmy powstaną, dojdzie do dewastacji ekosystemu, także mieszkańcy przypłacą tę inwestycję zdrowiem. Nie jesteśmy przeciwni stawianiu wiatraków. Sprzeciwiamy się stawianiu wiatraków w miejscach, gdzie szkody, jakie mogą wyrządzić, znacznie przewyższają korzyści z ich posadowienia płynące”.**

Стаўленне Бобранскага нацыянальнага парку, як сказаў сакратар гміны Станіслаў Грынкевіч, не паўплывае на рашэнне адносна ветрастанцыі на тэрыторыі гміны. Уся справа мае высветліцца на працягу бліжэйшых месяцаў.

**Уршуля ШУБЗДА**

# Спяваюць ужо 20 гадоў!



**Хор „Сакольскія верасы”**, які дзейнічае пры Клубе сеніёра, святкаваў сваё 20-годдзе. Той круглы юбілей быў адначасова нагодай, каб падвесці ўсе поспехі калектыву, а таксама ўзнагародзіць найбольш заслужаных членаў хору.

Падзякам і віншаванням не было канца. Зала сакольскага кінатэатра „Сокал” была перапоўненая да апошняга месца. На ўрачыстасці былі прысутныя, перш за ўсё, гарачыя фанаты хору, але таксама ўлады горада, прадстаўнікі павятовага староства ды прадстаўнікі хароў сеніёра з усяго раёна.

Адмысловыя адзнакі для найбольш заслужаных уручыла бургамістр Сакольскі Ева Кулікоўская, якая падкрэсліла значнасць хору для горада.

— Сённяшняя цырымонія незвычайная. Незвычайная таму, што „Сакольскія верасы” даказваюць, што можна да чаго-небудзь дайсці толькі шляхам дружнага супрацоўніцтва. Дзякуючы вам, — працягвала бургамістр, — нашая Сакольская зямля вядомая ў рэгіёне і ва ўсёй Польшчы.

Хор „Сакольскія верасы” дзейнічае пры Сакольскім асяродку культуры. Большасць спевакоў гэта члены Клуба сеніёра „Верасы”. Пенсіянеры ў гэтакі спосаб праводзяць свабодны час, аднак трэба падкрэсліць, што поспех хору гэта вынік цяжкай шматгадовай працы.

— На пачатку было некалькі асоб, — кажа дырыжор Пятро Чачот. — Мы пачыналі з нуля. Пазней пачалі дабівацца поспехаў. Прыбывала энергіі. Сёння наш хор можна назваць прафесійным сярод аматарскіх хароў.

„Сакольскія верасы” атрымлівалі шматлікія ўзнагароды на аглядах аматарскіх хароў. Найбольшым іх дасягненнем можна лічыць першае месца на Аглядзе артыстычных гуртоў пенсіянераў у Быдгашчы, якое займалі пяць гадоў запар. Усе пенсіянеры, якія спяваюць у хоры, падкрэсліваюць, што поспехі гэта перш за ўсё заслуга дырыжора Пятра Чачота. Ён нядаўна атрымаў Ганаровую адзнаку Падляшскага ваяводства за грамадскую і артыстычную дзейнасць, у тым ліку за 20-гадовае вядзенне хору „Сакольскія верасы”. Варта адзначыць, што Пятро Чачот нарадзіўся ў Беларусі і выдатна карыстаецца беларускай моваю, што таксама праяўляецца ў рэпертуары хору. Сеніёры ў сваім рэпертуары маюць не толькі польскія, але беларускія і ўкраінскія песні.

Мерапрыемства, прымеркаванае да 20-годдзя хору „Сакольскія верасы”, завяршылася ўрачыстым канцэртам, які даказаў, што хаця найстарэйшаму харысту пад восемдзесят, усе яны яшчэ ў добрай форме.

**Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ**

## Еўрадары

Памалу прыбывае ў нашай краіне сучасных установак, якія выкарыстоўваюць натуральныя крыніцы энергіі, такія як вецер, вада, сонечнае святло. Многа вакол іх няяснасці, многа нагод для карупцыі вялікага і малога маштабу, нямала таксама бюракратычнай бязглуздзіцы.

У канцы мінулага года на тэрыторыі Сямятыцкай гміны ўстанаўлівалі сонечныя батарэі для падагрэву вады ў хатніх гаспадарках сялян. Прыстасаванне карыснае, цёплая вада пастаянна патрэбная і для дома, і для паения цялят ці парасят. І можна яе мець без неабходнасці паліць у печах, што асабліва летам з'яўляецца існай дабрадзейнасцю.

Паколькі гэтыя ўстаноўкі карысталіся еўрасаюзнай фінансавай падтрымкай, і да гэтага даволі значнай, тады і ахвотных займець сонечныя батарэі з'явілася нямала. Але калі прыйшлося ўстанаўліваць панэлі, даволі шмат сялян адмовілася, даведаўшыся аб умовах, якія ставіць ім гмінная адміністрацыя. Па-першае, колькасць панэлей абумоўлена колькасцю пражываючых у будынку чалавек. Мае суседзі хацелі ўстанавіць дзве такія панэлі, але ў Брусэлі вырашана, што ў сям'і з пяці чалавек на доме павінны быць тры панэлі, а не дзве. І няважна, што за момант найстарэйшыя дзеці паляцяць у свет, хутчэй за ўсё не таму, каб вярнуцца назад. Па гэтай прычыне і дамачадцаў застанецца максімальна трое. Але бюракрат ведае лепш за гаспадара, што яму патрэбнае. Пэўна справа не ў камісійных за пасрэдніцтва ў продажы кожнай штукі батарэі. Бо тады была б яўная карупцыя, а такой — паводле запэўніваннаў партыі і ўрада — у Польшчы няма. Калі карупцыя, то толькі ў Расіі, у Пуціна!

Чарговая бязглуздасць гэта неабходнасць устанаўліваць панэлі з паўднёвага боку, незалежна ад размяшчэння і формы будынка. Ну і, не дай Бог, ставіць сонечныя батарэі на іншым, чым жылы, будынку! А чаму так?

Такім чынам, памаленьку, селянін перастае быць гаспадаром нават у сваім двары. Хто плаціць грошы, той і музыку заказвае... Хацелася вам у Еўрасаюз, дык слухайце і маўчыце! Бо інакш, то... ну менавіта што? Ці нашым жыхарам пагражае рабства? А што з тымі, якія былі супраць далучэння?

**М. Ц.**

## Маёўка для невідучых

16 мая гэтага года праўленне Гайнаўскага гуртка Польскага саюза невідучых ладзіла пікнік на прыгожай ускраіне Белавежскай пушчы ў Гайнаўцы. Былі тут сталы і лавы пад дашкам ды месца для вогнішча. Былі пачастунак і музыка. Са смакам усе елі гарохавы суп, бульбяную кішку і прысмажаныя на вогнішчы кілбаскі.

Аліцыя Леанюк, Дарота Крулікоўская і Эва Барысавец арганізавалі конкурсы і розныя гульні. Весела было. Многа песень на польскай, рускай і беларускай мовах праспявала таленавітая Юліта Кічкайла. З ёю спявалі ўсе ахвотныя. Некаторыя жанчыны танцавалі.

За дапамогу ў арганізацыі мерапрыемства невідучыя з Гайнаўшчыны сардэчна дзякуюць Надлясніцтву ў Гайнаўцы ды фірме «Верполь» Веры Петручук і гандлёва-паслуговаму прадпрыемству «Карамель» у Гайнаўцы.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

**У пачатку 2013 года настаўнікі і бацькі вучняў Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы заснавалі Аб'яднанне «Наша школа», якое стала дзейнічаць пры Гайнаўскім белліцэі. Старшынёй быў выбраны настаўнік беларускай мовы Ян Карчэўскі, а першым мерапрыемствам, якое наладзіла новая арганізацыя, быў „Пікнік з «беларусам»".**



Народны беларускі калектыў «Бараўлянская крынічка» Дзіцячай школы мастацтваў у Бараўлянах

# III Пікнік з «беларусам»

**«Беларусам» гайнаўская моладзь называе белліцэй і белгімназію. Новае мерапрыемства адкрытае на ўсю гайнаўскую супольнасць — дзетак, моладзь і дарослых. Год назад з-за дрэннага надвор'я пікнік адбыўся ў актавай зале. Сёлета выступы прайшлі на шыкарнай вялікай сцэне.**

Падчас III Пікніка з «беларусам» 15 мая гэтага года на прышкольнай пляцоўцы сабраліся вучні белліцэя, белгімназіі і іншых школ, якія прыйшлі на спатканне разам з настаўнікамі. Беларускае мерапрыемства вялі настаўнік Ян Карчэўскі і вучаніца Магдалена Гаўрылюк. У пікніку ўдзельнічалі таксама дарослыя гараджане. З дашкольнікамі і наймалодшымі вучнямі прыбылі іх бацькі або бабулі і дзядулі. Усе яны разам саставілі асноўную публіку мерапрыемства, якое ўдастоілі віцэ-староста Гайнаўскага павета Галіна Сурэль, начальнік аддзялення грамадскіх спраў Гайнаўскага стараства Уладзімір Петручук і прадстаўніца магістрата Сільвія Кочук. Прысутнічалі дырэктары садкоў № 3 (з інтэграцыйнымі аддзяленнямі) Дарота Дужынская і № 1 Ірэна Гапунік, дзеткі якіх выступілі перад публікай. Разам з вучнямі на школьную пляцоўку прыйшлі белліцэйскія і белгімназічныя настаўнікі, з дырэктарам Яўгенам Сачко і віцэ-дырэктарам Нінай Лукасік.

Першымі адважна і займальна запрэзентаваліся дзіцячыя калектывы «Калыска» і «Званочкі» з садкоў № 1 і № 3. Спявалі яны беларускія песні, дэкламавалі беларускія вершыкі і танцавалі пад гукі беларускіх песень. Хаця з-за дажджу арганізатары пікніка вымушаны былі зрабіць перапынак, выступы наймалодшых атрымаліся вельмі ўдала. Дашкольнікі, апранутыя ў прыгожыя ўборы, захапілі сабраных шчырымі і цікавымі выступамі.

— Мы нядаўна выступілі ў Гайнаўскім доме культуры на раённым аглядзе конкурсу «Беларуская песня», арганізаваным для дашкольнікаў, вучняў падставовых і гімназічных школ. Праспявалі мы дзве беларускія песні і занялі другое месца. Сёння таксама выступім з беларускім рэпертуарам, будзем спяваць і танцаваць, — сказала Хрысцінія Чурак, апякун дзіцячага калектыву «Званочкі» з садка № 3.

— Нашы дзеткі сёння дэкламавалі беларускія вершыкі і спявалі беларускія песні. На нядаўнім раённым аглядзе «Беларуская песня» мы занялі трэцяе месца. Гэтыя прыгожыя ўборы пашылі мы ў рамках рэалізаванага раней праекта. Тады калектыў прыняў назву «Калыска», — сказала Міраслава Ніканчук, апякунка калектыву дашкольнікаў з садка № 1.

— Сённяшні пікнік арганізуе Аб'яднанне «Наша школа». Першы раз ладзім пікнік у час, калі ў школах адбываюцца яшчэ заняткі. Сабраліся тут вучні і настаўнікі горада Гайнаўкі. Такім мерапрыемствам як пікнік і іншымі прапановамі Аб'яднання «Наша школа» мы намагаемся падтрымліваць сваю мову, культуру, выхоўваць дзетак і моладзь у беларускім духу. Наша мэта — прамоцыя нашай школы ў Гайнаўцы і наваколлі, — сказаў старшыня Аб'яднання «Наша школа» Янка Карчэўскі.

Дырэктар Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы Яўген Сачко пахваліў сваіх настаўнікаў, вучняў і бацькоў з Аб'яднання «Наша школа» за ўдалы пікнік. Прыгадаў, што вялікую шыкарную сцэну ўдалося паставіць побач школьнага будынка дзякуючы прыхільнасці войта Гайнаўскай гміны Люцыны Смактуновіч (сцэна з'яўляецца ўласнасцю Гайнаўскай вясковай гміны).

Калі на сцэне выступалі дашкольнікі і вучні, сабраныя елі каўбаскі з грыля, якія абсмажвалі белліцэісты пад наглядам настаўнікаў. Белліцэісты прапанавалі гімназістам рэкламныя матэрыялы аб Гайнаўскім белліцэі, а працаўніцы Павятовай камендатуры паліцыі маркіравалі вартасныя прадметы, каб у выпадку крадзяжу можна было іх лягчэй ідэнтыфікаваць. Вучылі яны таксама як бяспечна праводзіць вольны час пасля заняткаў і ў час канікулаў. Цудоўна выступіў Народны беларускі калектыў «Бараўлянская крынічка» Дзіцячай школы мастацтваў у Бараўлянах Мінскага раёна. Музыканты з народнай капэлы запрэзентавалі беларускую народную музыку, а дзяўчаты спявалі беларускія фальклорныя песні.

— Мы выступаем з беларускімі народнымі песнямі ў маёй аўтарскай апрацоўцы і дабаўляем да іх харэаграфічныя дэталі, узятыя з народных танцаў. У калектыве «Бараўлянская крынічка» спяваюць вучні, а ў народнай капэле іграюць настаўнікі і выпускнікі нашай школы, якія прадаўжаюць вучобу ў музычных аддзяленнях. Сёння вы пачуеце розныя музычныя інструменты — цымбалы, скрыпку, флейту, баян, балалайку, кантрабас і гармонік, — заявіла мастацкі кіраўнік «Бараўлянскай крынічкі» Аліна Горская. — Наша паездка ў Польшчу афармлялася з дапамогай беларускага пасольства ў Варшаве. Мы сёння выступілі ўжо ў Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Бельску-Падляшскім. Цяпер прыехалі сюды, каб выступіць на пікніку. Нам падабаецца добрая атмасфера і цёплы прыём у вашых школах.

Дзяўчаты з беларускага калектыву былі рады, што паявілася нагода прыехаць у Польшчу, выступіць перад вучнямі беларускіх школ у Бельску і Гайнаўцы ды паглядзець як жывуць іх равеснікі ў замежжы. Сваім шчырым прывітаннем на беларускай мове і цікавым выступам з беларускім рэпертуарам захапіў публіку дзіцячы калектыў «Сунічкі» са Школьна-прадшкольнага комплексу ў Белавежы пад наглядам настаўніцы беларускай мовы Анджаліны Масальскай.

— У «Сунічках» выступаюць дзеткі, якія ў нашай школе вучацца беларускай мове. Гэта 17 асоб — вучні з другога па шосты клас. З новым годам калектыў папоўніцца чарговымі вучнямі. «Сунічкі» дзейнічаюць толькі другі год. Мы стараемся развучваць штораз новы беларускі рэпертуар. Добра, што ёсць розныя нагоды, каб выступаць, — сказала настаўніца Анджаліна Масальская. — Ідэя беларускага пікніка добрая, бо школьнікі і бацькі могуць паглядзець выступленні іншых вучняў.

— Мы любім спяваць па-беларуску. Нам цікава выступіць на сцэне, — заявілі Вікторыя Дуткоўская і Амэлька Кавальчук з гурта «Сунічкі».

— Я думаў, што тут арганізуецца невялікае беларускае мерапрыемства, а бачу вялікую імпрэзу, для якой спецыяльна пастаўлена такая вялікая сцэна. Пануе атмасфера беларускага пікніка і я рады, што наш белавежскі дзіцячы калектыў мае магчымасць тут запрэзентавацца, — заявіў Марк Зубрыцкі, які і на акардэоне падыгрываў белавежскім дзеткам.

Беларускія песні перапляталіся з выступамі мажарэтак з Гайнаўскага дома культуры.

— Мы займаемся ў Гайнаўскім доме культуры, але нашая дзейнасць спалучана таксама з Пажарнай аховай у Гайнаўцы. Мы рады, што можам выступаць у розных месцах, бо гэта дае нам задавальненне, — сказалі гайнаўскія мажарэткі Караліна Грыцюк, Юля Іванюк і Наталля Анопюк.

Перад публікай выступілі некалькі груп мажарэтак, сярод якіх была Марта Смактуновіч.

— Я рада, што мая дачка Марта выступае ў мажарэтках і сёння ўдала запрэзентавалася перад намі. Выступала яна ў Беластоку і Ломжы, мае нагоду выязджаць у розныя мясцовасці і гэта дае стымул для доўгіх трэніровак, — заявіла Барбара Смактуновіч, былая вучаніца Гайнаўскага белліцэя.

Займальна і з цікавымі беларускімі песнямі запрэзентавалася белліцэйская «Знічка», якую вядзе Бажэна Ляўчук. Белліцэісткі пахвалілі беларускі пікнік і сказалі, што гэта добрая нагода для выступаў з беларускім рэпертуарам перад сваёй публікай.

— Пікнік — цікавая прапанова для вучняў і дарослай публікі. Сабраныя маюць магчымасць паслухаць прыгожыя беларускія песні і зацікавіцца іншымі прапановамі, — сказалі Наталля Мусюк і Іаанна Раманюк са «Знічкі».

Для публікі ладзіліся конкурсы, падчас якіх трэба было адказаць на пытанні па беларускай літаратуры і культуры. Вучні патрапілі адказаць на пытанні аб «Ніве», назвалі прозвішчы беларускіх пісьменнікаў і дзеячаў беларускай культуры.

— Я прыйшла з гімназістамі, якія ў нашай школе вучацца беларускай мове. Нам цікава паглядзець выступленні па-беларуску, — заявіла настаўніца беларускай мовы ў Комплексе школ № 3 у Гайнаўцы Анна Франкоўская.

Перад сабранымі цікава выступіла яшчэ выпускніца белліцэя Юліта Ваўрашук, якая займаецца ў Студыі песні Гайнаўскага дома культуры.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

# Жалезны Самсон з Крынак

**— Здаецца, гэтая гісторыя павінна цябе зацікавіць, — напісаў мне энтузіяст яўрэйскай спадчыны Падляшша Тамаш Віснеўскі. Адзін з раскінутых па ўсім свеце яго знаёмых, нашчадак крынскіх яўрэяў, звярнуў увагу на нядаўна трансляваны першым каналам ізраільскага тэлебачання дакумент пра народжанага ў 1902 г. у Крынках Якава Казельчыка (Казальчыка).**



„Вартаўнік блока № 11” — фільмавая прадукцыя тэлебачання „Кфар Саба” паўстала ў 2014 г. на аснове кніжкі Аміра Гаскеля пад аднайменным загалоўкам і распавядае пра чалавека, які ў час Другой сусветнай вайны выратаваў шмат яўрэйскіх вязняў асвенцімскага канцлагера, выконваючы абавязкі тамашняга капо. Дажываў у цені створаных пра яго махлярстваў, аганьбаваны, пакінуты сям’ёй, знаёмымі і грамадствам.

З біяграфіяй героя знаёмлюся на старонках расейскай і стараяўрэйскай Вікіпедыі ў англійскай версіі.

Калісь мая славянская бабуля Надзя распавядала пра чалавека моцнага як тур, які рукамі выгінаў жалеза. Ці мела на ўвазе Якава Казельчыка?

Казельчык з дзяцінства вылучаўся небывалай сілай і мускулатурай. Сямігадовы Якаў здзівіў суседзяў, несучы ў зубах вядро з вадой з калодзежа дахаты. Ісаак і Сара, бедныя крынскія гарбары, хутка яго асірацілі. Васьмігадовы хлопчык папаў у мясцовы прытулак. Заўсёды ведаў як сябе абараніць. У 14 гадоў справіўся з крынскімі хуліганамі, якім захацелася зрабіць жыдоўскі пагром. Сіроцтва засталося з ім назаўсёды. Два гады перад смерцю сілу сваіх мышцаў паказваў у Лондане, каб сабраць грошы для дзіцячых дамоў у Ерусаліме.

18-гадовы маладзён рашыў адправіцца ў шырокі свет. Спярша да сваякоў на Кубу. Там працаваў партовым грузчыкам. Пры нагодзе арганізаваў паказы неверагоднай сілы свайго 130-кілаграмовага маладога цела. Неўзабаве далучыўся да цырка прафесіянальных цяжкаатлетаў, з якімі пабываў у Амерыцы, Мексіцы і Аргенціне. У 1938 г. разам з імі пераехаў у Еўропу. На працу ўладкаваўся ў варшаўскі цырк. Выступаючы ў майцы з размаляванай зоркай Давіда, стаў кумірам яўрэйскай моладзі. У час аднаго з цыркавых аб’ездаў пазнаёміўся з будучай жонкай, дзяўчынай з Саколкі. Пакінуў цыркавую кампанію і пасяліўся ў родных Крынках. Тут нарадзілася яму двое дзяцей. Сямейнае шчасце перарвала Другая сусветна вайна, якая ў Крынкі завітала ў 1941 годзе.

Немцы назвалі яго „Бомбтрагэн”, убачыўшы, як на ўласных руках вынес з цэнтра Крынак стокілаграмовую неўзарваную бомбу. У крынскім гета назначылі яго камендантам яўрэйскай паліцыі. У лістападзе 1942 г. гета ліквідавалі, а яго жонку і двое маленькіх дзяцей вывезлі на смерць у Трэблінку. Якава адправілі ў лагер працы камандаваць групай з 350 яўрэяў. У 1943 г. дапамог маладым людзям выскачыць праз акно цягніка ў дарозе ў Аўшвіц. Сам з-за вялікіх размераў у ім не змясціўся. Прайшоўшы ўступную селекцыю, стаў вартаўніком блока № 11. Гэта было самае жудаснае месца ў цэлым асвенцімскім лагеры, званае таксама блокам смерці.

Яўрэйскі вартаўнік сярод большасці польскіх вязняў нямецкага канцлагера звярнуў увагу Аміра Гаскеля — ізраільскага ваеннага пілота і даследчыка Халакоста.

— Якім чынам так атрымалася? — задумваўся даследчык.

На след чалавека родам з Крынак папаў ён у ліпені 2004 г. Неўзабаве асабіста адправіўся у Аўшвіц, дзе сустрэў Зэвіка Лірона — ваеннага пілота, былога вязня блока № 11.

— Якаў Казельчык мяне выратаваў, — падняўся з крэсла адстаўны пілот, пачуўшы імя збаўцы.

Кожны, хто прабаваў уцячы з лагера і яго схапілі, пападаў пад суд, а затым у 97 працэнтах атрымліваў смяротны прыгавор. Гэта адбывалася ў блоку № 11. У дзень экзекуцыі Казельчык на паўгадзіны гнаў прысуджаных за блок на гэтак званую немцамі гімнастыку, адкуль бяспечна пераязджалі яны ў Біркенаў.

— Казельчык паглядзеў на мяне і мой нумар, — успамінае іншы выратаваны, Шрага Ніцберг, — і сказаў:

— Ты недалёкі ад майго нумара, і ты яўрэй. Паслухай, павяду цябе ў пакой, удару ў стол, а ты закрычыш.

Ноччу забралі мяне ў склеп. Помню смурод мачы, калу і поту. Раптам дзверы адчыніліся:

— Цяпер пойдзеш у мой пакой, — загадаў Казельчык, — і ляжаш на мой ложак. Вось табе плед і конская каўбаска.

Раніцай адправіў мяне ў іншае месца і больш у лагеры я яго не спаткаў.

— Мой бацька быў членам руху супраціўлення ў Аўшвіц, — кажа Аві Заблудовіч. — Звычайна Якаў забіраў яго ў склеп і даваў харчы, прызначаныя хворым і паміраючым. Такім чынам выратаваў ён многіх яўрэяў. Бацька называў яго героем.

Год пасля вызвалення Казельчык на судне „Берыя” выэміграваў у ізраільскую Абяцаную зямлю, каб пачаць новае жыццё. Праз месяц у тамашняй газеце з’явіўся артыкул аб яго супрацоўніцтве з немцамі. Назвалі яго вешальнікам блока № 11.

— Сустрэліся мы з ім у Ізраілі, — гаворыць Шрага Ніцберг, — у кібуцы Беіт-Зера. Я працаваў у полі. Хтосьці падышоў да мяне і сказаў, што гэты вялікі чалавек хоча са мной гаварыць.

— Ведаю, што ты быў у Аўшвіц і праўдападобна мяне там сустрэў. Польшча і Чэхаславакія патрабуюць маёй экстрадыцыі. Напішы ліст. Будуць мяне судзіць.

— На развітанне падаў мне руку. Ліст я напісаў. Чуў, што адкрыў ён кіёск у Голане.

Абвінавачанні ў супрацоўніцтве з нацыстамі былі для Казельчыка невыносным ударам. Мабыць, па гэтай прычыне на тры гады перад смерцю пакінула яго трэцяя жонка з маленькім дзіцяткам. Стаміўся, папаў у цяжкую дэпрэсію. Сэрца не вытрымала. Памёр у 1953 г. на 51 годзе жыцця. Цела спачыла на могільніку Кірыят Шаул у Тэль-Авіве. Мацэву не паставіў яму ніхто.Чаму?

— Пасля сустрэчы з Зэвікам Ліронам, — прызнаецца Амір Гаскель, — чалавекам, які пражыў дзякуючы Казельчыку, я адназначна вырашыў, што не змагу больш глядзець на гэтую справу збоку.

У 2005 г. паставіў ён мацэву на магіле Якава Казельчыка з Крынак — званага ў яўрэйскім народзе Жалезным Самсонам.

**Іаанна ЧАБАН**

## Лепшыя прапановы

Апошнім часам памяняў я дзве важныя ўстановы, паслугамі якіх карыстаўся я шмат гадоў. Прычынай таму сталі больш карысныя цэны, якія запрапанавала мне канкурэнцыя дасюлешніх пастаўшчыкоў паслуг.

Спярша памяняў я аператара сувязі. Новая кампанія прапанавала мне такія ж самыя паслугі, але на траціну танней, чым дасюль. Узяла яна на сябе абавязак аформіць усе справы, звязаныя са зменай аператара. Калі стары аператар даведаўся аб маім намеры адмовіцца ад іх паслуг, дык у тэлефоннай размове прасіў надалей застацца іх кліентам, бо — аказваецца — і яны таксама могуць мяне абслугоўваць па меншым кошце. Толькі шкада, што такой прапановы мне не прад’явілі, калі я яшчэ быў іх кліентам!

Потым я вырашыў памяняць банк. З дасюлешнім банкам я быў звязаны чвэрць стагоддзя. З часам стаў ён браць штораз большую аплату за вядзенне рахунка і за банкаматную карту. Новы банк прапанаваў мне гэтыя паслугі без кошту з майго боку, а дадаткова даў магчымасць без камісійнага збору плаціць рахункі за электраэнергію, ваду і тэлефон, калі на фактуры будзе стаяць маё імя і прозвішча. Такія ўмовы мне спадабаліся і я вырашыў падпісаць з новым банкам дамову. Калі я прыйшоў у свой стары банк ліквідаваць рахунак, тады сказалі мне, што я мог бы ў іх застацца, бо ў маім узросце і ў іх можна атрымаць падобныя льготы. Шкада, што па гадах абслугоўвання мяне не падумалі, каб зацікавіцца маім узростам і запрапанаваць лепшыя ўмовы.

На абедзвюх зменах я зэканоміў каля 50 злотых штомесячна, а гэта складае каля 7% маёй невялікай пенсіі. Значыць, варта было!

А пішу таму, каб і іншыя чытачы паспрабавалі, ці не ўдасца ім у падобны спосаб зэканоміць трохі грошай. А хто ж з нас мае іх замнога?

**М. Ц.**

## Добрыя гаспадары

У Нараўчанскай гміне (Гайнаўскі павет) вялікіх поспехаў у сельскай гаспадарцы — перш-наперш у гадоўлі малочных кароў дабіліся Яўген Кузьма з Тарнаполя і Раман Семеняка з Міклашэва (у іх найбольш высокатаварныя гаспадаркі), Яраслаў Стоцкі з Новай Лукі, Станіслаў Сватко са Смольніцы каля Тарнаполя ды Славамір Смольскі і Аляксандр Ігнацюк з Новага Ляўкова.

Такіх гаспадароў, якія крыху менш малака прадаюць Гайнаўскаму малочнаму кааператыву, шэсць у Тарнаполі, двух у Новым Ляўкове і па адным у Новай Луцэ, Заблотчыне, Капітаншчыне і ў Слабодцы. У Новым Ляўкове такімі жывёлагадоўцамі з’яўляюцца Уладзімір Красноўскі і Ян Целушэцкі (у вёсцы ёсць двух Янаў Целушэцкіх, другі з іх радны і солтыс, ён не жывёлагадовец).

**(яц)**

## Часночны лікёр ад ста хвароб

У празрыстую бутэльку пакладзі 12 зубчыкаў часнаку, кожны падзелены на 4 часткі. Залі трымя шклянкамі чырвонага віна. Зачыні і пастаў на сонечны бок акна на два тыдні. Кожны дзень боўтай 2-3 разы. Затым працадзі і пералі ў цёмную бутэльку.

Прымай па 1 чайнай лыжачцы 3 разы ў дзень на працягу месяца.

Цудадзейны сродак для таго, каб вывесці солі з арганізма, павысіць працаздольнасць, ачысціць кроў, палепшыць імунітэт, умацаваць сасуды. Вельмі моцна ўмацоўвае сэрца, чысціць кроў і танізуе арганізм. Прыбірае лішнія тлушчы і паляпшае абмен рэчываў. Незаменны ад жаночых хвароб і запаленняў. Мякка ачышчае ўвесь арганізм ад шкодных адкладаў.

**Ясюк СТРУК**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

Зорка для дзяцей і моладзі

*Клаўдзія СІКОРСКАЯ, Гімназія ў Міхалове*

## Айчына

*Адна толькі ёсць*
*на ўсім свеце айчына –*
*прыгожая, клапатлівая.*

*Адзетая ў лугі і палі,*
*лясы і паркі.*
*Паважаная і каханая.*

*Усе хочуць,*
*каб трывала з намі,*
*каб засталася з намі,*
*каб ніколі не мянялася*
*наша Беларусь...*

## Родная мова

*Мова беларуская, ах... беларуская.*
*Няма ў ёй ніводнай пусткі.*
*Яна найпрыгажэйшая ў свеце*
*Зімой, восенню, вясной і ўлетку.*

*Незалежна ад хвілін цярпення і зыходу,*
*Гэта мова нашых продкаў.*
*І хаця яна і простая,*
*Яна адна такая на ўвесь свет...*

## Беларусь

*Ах, Беларусь! Айчына мая!*
*За цябе кроў аддамо!*
*Каб ты з намі трывала*
*Да канца свету.*

*Ах, Беларусь! Поўная музыкі.*
*Гэта дзякуючы табе жывем.*
*І хаця часам у нас слёзы і сум,*
*Мы ратунку не шукаем*
*і з табой трываем.*





## «Найлепшае вока»

У беластоцкай гімназії № 7 наладзілі адмысловыя спаборніцтвы. Настаўніца Альжбета Рудкоўская запрасіла сваю былую вучаніцу Касю Бялькевіч, каб тая расказала пра стральбу баявымі і халастымі патронамі. Кася — чэмпіёнка ў гэтай галіне спорту.

Пасля даклада пачалася стральба. Гульню пад загалоўкам «Найлепшае вока» наладзілі ў форме конкурсу з узнагародамі. Найлепшым стралком аказаўся Павел Гаінскі, на другім месцы апынуўся Куба Тымашэвіч, а трэцяе месца заняў Куба Хаманюк. Адзіная дзяўчына, Дарыя Рудчук, таксама праявіла сябе і не была сярод апошніх. Яна заняла сёмае месца.

— Конкурс быў свайго роду ўзнагародай для моладзі, якая ходзіць на ўрокі беларускай мовы, — адзначае настаўніца.

Пра характар спаборніцтва вырашыў таксама мужчынскі састаў класа — на адзінаццаць асоб там толькі адна дзяўчына.

У правядзенні конкурсу дапамаглі фундатары: Рада бацькоў і рэдактар «Нівы» Яўген Вапа, якія прафінансавалі патроны для стральбы і адмысловыя кубкі для пераможцаў.

(гак)



## Загадкі з роднай хаткі

## УВАГА КОНКУРС! № 22-15

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 4 чэрвеня 2015 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Рада ці не рада ёй,
А яна, як радыё.
На хвасце нясе
навіны,
Разбалбоча за хвіліну
С.....

Рана ў нядзелю
Краў бы воўк
Кудзелю.
Ваўкадаў
Не даў.
І кудзеля наша
Ідзе сабе з пашы,
Радасна бляе.
Сутракай яе.
А.....

Н. А. Сторажава

**Адказ на загадкі № 18-15: рэчка, ландыш, вяроўка. Узнагароды, наклейкі, выйграў Якуб Нікіцюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

# Дашкольнікі спяваюць пра шчасце



У веснавы сонечны дзень 13 мая сабраліся дашкольнікі з Беласточчыны ў Беларускім таварыстве на сцэне, якую некаторыя добра ведаюць і з іншых цікавых мерапрыемстваў. Пэўна, выступяць на ёй не раз! А ў гэты раз сабрала дзетак, іх настаўніц і гасцей — бацькоў і нават бабуль і дзядуляў мерапыемства, якое арганізуе беластоцкі Дзіцячы садок № 14 — на ўжо XI выпуск Фестывалю дзіцячай песні нацыянальных меншасцей. Усе залы і калідор запоўніла каляровае і шумлівае мора! І кожны як найлепш і найхутчэй хацеў праспяваць свае вясёлыя песенькі! Але па чарзе — першым выступіў гурт арганізатараў — «Вясёлка», са сваёй вядучай песняй «Аркестр» ды «Рыбакамі», які рыхтавалі настаўніцы Эмілія Базылюк, Альжбета Баравік, Данута Тымашэвіч. Пералічваем выхавацелек — бо і яны сёння выступяць разам з іншымі настаўніцамі, а і самі маюць свой ансамбль, які не раз атрымаў найлепшыя ўзнагароды на дарослых фестывалях песні! З беларускага садка выступілі яшчэ трыо Юля Алексяюк, Ніна Белавежац і Зося Галубоўская, салісты Аляксандр Хаманюк і Кася Васькоўская, і калектыў у складзе: Зілан Байры, Зелял Байры, Вольга Галубоўская, Аляксанлдра Гурба, Кася Вільдовіч і Міколка Лаўрашук. Пані Міраслава Ціханюк падрыхтавала дзетак з Прадшколля № 27 — Аляксандру Кавальчык, Габрысю Кішкель, Зосю Якімец і Мілаша Дудара (заспявалі «Купалінку»), пані Кацярына Вандалоўская — дуэт з Прадшколля № 58 Зузанну Гасеўскую і Габрысю Роман з песняй пра тое, каб заўжды было сонца. Заспявалі і станцавалі «Купалінку» дашкольнікі з прадшколля № 32 (рыхтавалі пані Валя Вандалоўская, Эва Саботка і Іза Врублеўская) — Магда Вэрэса, Габрыся Осяк, Зося Вашкевіч, Юля Арцішэўская, Моніка Квяткоўская і Аліцыя Завянец. Захапіла ўсіх вясёлае выкананне выхаванцаў Ірэны Стэльмашук, Іаанны Касакоўскай і Альжбеты Астроўскай песенькі пра куранятак — гэта незабыўныя «Зорачкі»: Магда Бухоўская, Лена Ефімюк, Патрыцыя Кун, Аня Луकоўская, Аня Мазуркевіч, Наталля Пулторак, Марыя Радульская, Кінга Селеванюк, Марлена Трушкоўская, Патрыцыя Жукоўская. З украінскімі песнямі выступілі дашкольнікі з Бельска-Падляшскага, з садка «Лясная паляна» — гурт «Сонэчко», а сярод іх суперсалісты — гаспадынька Мая Ермалоўская і Грышка Данілюк, ды бадзёрая рэшта: Магда Корпач, Вераніка Назарук, Паўліна Хмур, Ілярыя Такаюк, Наталля Лапінская, Оля Завадская. А на сам канец развarушыла ўсіх Гайнаўка — вялікі гурт з садка № 1: саліст Яська Лісоўскі і цэлы ансамбль «Калебка» — Вераніка Герасімюк, Мая Гацута, Сафія Грыгарук, Ганна Барута, Лена Панасюк, Ева Русіновіч, Міхаліна Андрасюк, Патрыцыя Кот, Ганна Леўша, Кася Кірылюк, Кася Сухадола, Віктар Рэй, Матэвуш Асташэўскі і Адам Яжэнцкі. Чаму так шчыра пералічылі мы ўсіх выдатных, узнагароджаных спевакоў? А я магу ісці ў заклад на цэлую плітку шакаладу, што пачуем яшчэ пра іх не раз!



Яську Лісоўскага ўзнагародзілі за песню пра маму



Аляксандр Хаманюк заспяваў песню «Сон у госці ідзе»

## Вершы Віктара Шведа



### Выбраў мора

Настаўніца кажа: — Дзеці,
Трэба нам вучыцца,
Каб на сваёй зямельцы
Працай ганарыцца.

Азваўся Ясь з дакорам:
— Я падуладны лёсу
І буду жыць на моры
Свабодным матросам.

### Я іду на пратулку

— Я іду на пратулку, мама,
— А ты ж яшчэ не дама.
А дзе ж ты, дачушка, будзеш,
Можа на нейкім адлюддзі?

З кім ты выходзіш, доня,
А каторай вернешся сёння?
— Я іду на пратулку, тата.
— Добрага табе спацыру,
Ната.

*Кацярына ХАРКЕВІЧ*
*Мацейкава Гара, ПШ у Міхалове*

### Сям'я

*Матуля чытае мне казкі,*
*А я пішу потым чытанкі,*
*Мая сястра ніколі*
*не ходзіць без скакалкі,*
*А брацік зімой ходзіць*
*толькі на санкі!*

## Польска-беларуская крыжаванка

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 18:**

Вясна, сын, бо, нос, галон, лотаць, конь, замак, но, бал, камар. Дых, стол, за, сокал, том, ганак, бацька, соль, на, напор.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Зузанна Мішчук, Малгажата Галёнка** з Арэшкава, **Міколка Здрайкоўскі** з ПШ № 4 у Беластоку, **Ніна Місіюк, Бартэк Місяюк** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, **Кацярына Лаўрашук** з Бельска-Падляшскага, **Кінга Бах** з Шудзялава, **Аня Бяляўская** з Нараўкі, **Іаанна Рута, Аляксандра Буслоўская** з КШ № 3 у Гайнаўцы. Віншуем!

№ 22-15

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Saszka | Tata / Kształt | | Zatoka | | | |
| | Port | Zapach / Zdanie | | | | | Pępek | Prom | |
| | Kasztan | | | | | | | No | |
| | Wika | Stan w USA / Imię | | | | | Wio / Dom | | |
| As | | | | | Opamiętanie / Ar | | | | |
| | Mleko / Soja | | | | | | | | |
| | | | Tram | | | | | | |

# Выжывуць толькі тыя, хто піша па-беларуску



**Размова з Васілём Дранько-Майсюком (1981 г. нар.) — рэжысёрам, драматургам, акцёрам, мастаком, педагогам, сынам аднаго з найвыдатных сучасных паэтаў Беларусі Леаніда, аўтарам п’есы «Пясняр», якая распавядае аб Уладзіміру Мулявіне, заснавальніку ансамбля «Песняры». П’еса ставіцца ў мінскім Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя Максіма Горкага (аб гэтым спектаклі мы пісалі на мінулым тыдні).**

*У красавіку сенсацыю ў кампанейскіх сферах Мінска выклікаў нечаканы шлюб Васіля з Валярынай Куставай, паэтэсай, журналісткай тэлебачання «Белсат». Адзначалі пра гэта шырока нават «Наша Ніва», «Хартыя ’97» ці «Радыё Свабода». Я сустрэў яго, аднак, не з нагоды гэтага выпадку, але перад адным з паказаў трохдзённага турнэ (13-16 мая) беластоцкага Драматычнага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі на сцэне мінскага Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі, з якім на працягу многіх гадоў супрацоўнічаў. Мы заселі за столікам у кавярні, прылеглай да гэтага тэатра. Я заказаў каву, а Васіль...:*

*Васіль: — Гарбату, калі ласка.*

*Дзяўчына за прылаўкам: — Чево???? !!!!*

*Васіль: — Гарбату.*

*Дзяўчына за прылаўкам: Што вы выпендрываецесь, гаварыце нармальна. Чево даць?!*

*Васіль: — Гарбату, значыт, чай.*

*Моўчкі, мы з Васілём паглядзелі адзін аднаму прама ў вочы, толькі з лёгкай усмешкай. Селі за столік. Праз некаторы час дзяўчына з-за прылаўка прынесла гарбату, значыць, чай. Я пачаў размову:*

**— Я прызнаюся, што я паняцця не меў, і толькі цяпер, тут, у Мінску нехта сказаў мне, што тваім дзедам быў Уладзімір Караткевіч...**

**Васіль Дранько-Майсюк** (смяецца): — Хто гэта кажа?

**— А што, што гэта не так?**

— Ну не. Праўда ёсць такая. Мая бабуля працавала ў Саюзе пісьменнікаў СССР і была адказнай там за беларускую літаратуру. У 1971 г. у час водпуску пазнаёмілася з Караткевічам і ён запрапанаваў ёй перакласці на рускую мову «Каласы пад сярпом тваім». Спатрэбілася шмат часу, каб з ім прабіцца. Не хацелі гэтага перакладу. Нарэшце ўдалося яго выдаць, але бабуля не стала яго перакладчыкам. Пасля мая мама, якая раней жыла ў Маскве, паступіла на завочнае аддзяленне ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, але ў Мінску не мела дзе жыць. І дзякуючы знаёмству бабулі з Караткевічам спынілася ў яго. Жыўшы разам, мела магчымасць назіраць яго ў розных жыццёвых сітуацыях. У рэшце рэшт яна пазнаёмілася з маім бацькам, які не меў у Мінску прапіскі, але здымаў кватэру. Мая маці пазнаёміла яго з Караткевічам і ён дазволіў, каб і бацька ў яго фармальна прапісаўся. Гэта было ў пачатку 1980-х гадоў, перад тым як я прыйшоў у гэты свет (Уладзімір Караткевіч памёр, калі Васілю Дранько-Майсюку было менш чым тры гады — М.Х.). Без сумневу, аднак Уладзімір Караткевіч меў уплыў на мяне. Ён быў першым, хто паказаў, што ў Беларусі былі нейкія арыстакраты, шляхта і што Беларусь мела сваіх вялікіх герояў. Ён выдатна пісаў пра каханне, у яго творах былі дэтэктыўныя моманты і ў гэтым плане быў арыгінальным. І гэтым мяне зацікавіў, калі я быў у сёмым-восьмым класе. А ён пісаў пра каханне так, што проста «ах». Я тады прачытаў усё, што ён напісаў. І ў гэтым плане ён аказаў уплыў на мяне. А зараз таксама ўплывае, калі я пішу драмы: таго «Песняра» ці п’есу, якую ў апошні час я напісаў — пра мастака Язэпа Драздовіча (мастак XX стагоддзя, графік, аўтар узору Пагоні — сімвала нацыянальнага адраджэння беларусаў — М. Х.), я бяру прыклад з прынцыпу, які ён ужываў. Ён узяў нейкі гістарычны факт і фантазіяваў вакол яго. Караткевіч меў на мяне вялікі ўплыў як унутрана свабодны чалавек. Ён не зайшоў бы да ніякай сістэмы з ніякімі ўмоўнасцямі.

**— А над чым працуе цяпер Твой бацька, і чаму ён згадзіўся напісаць п’есу пра Уладзіміра Мулявіна па просьбе Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Максіма Горкага, і запрапанаваў Цябе як аўтара?**

— Бацька ў апошні час часта бывае ў Вільні. Доўгі час вельмі заняты падрыхтоўкай дакументальнай кнігі «Віленская проза» пра беларускіх дзеячаў, якія жылі ў Заходняй Беларусі: пра Максіма Танка або Антона Луцкевіча. На нішто іншае ў яго няма часу і не было калі атрымаў прапанову з тэатра. Ён прапанаваў мне, таму што я ўжо меў вопыт у пісанні п’ес і іншых тэатральных тэкстаў. Мне напісанне гэтай п’есы заняло паўгода.

**— Напісаны па заказе тэатра імя Максіма Горкага «Пясняр» — якая гэта Твая тэатральная п’еса?**

— Я напісаў кароткую п’есу «Мара жанчыны», пасля дзіцячую... «Пясняр» з’яўляецца чацвёртай. Усе па-беларуску. У пастаноўцы «Песняра» наступілі некаторыя змены ў тэксце. Рэжысёры маюць права на такія працэдуры. Багдановіч гаворыць у маім тэксце па-беларуску, але ў тэатры якраз яго зрабілі рускамоўным. Нягледзячы на некаторыя змены, аднак, агульны сэнс не змяніўся.

**— З маіх назіранняў вынікае, што Ты ў цяперашні час адзіны, мабыць, адзін з нямногіх беларускамоўных драматургаў, чые п’есы ставяцца ў Мінску. Большасць стаўленых беларускіх драматургаў пішуць па-руску. Чаму?**

— Цяжка мне сказаць. За апошнія тры з паловай года я быў у Маскве. Магчыма, яшчэ хтосьці яшчэ піша п’есы на беларускай мове. Але на самой справе тыя беларускія драматургі, што ставяцца: Дзмітры Багаслаўскі, Мікалай Рудкоўскі ці Павел Пражко — рускамоўныя. Шкада. Вельмі шкада. Ужо ў нашай Акадэміі мастацтваў царыць русіфікацыя. Канстанцін Станіслаўскі гэта добра, Антон Чэхаў у парадку, але мы павінны таксама Францішка Аляхновіча і іншых нашых убіваць, каб фармавалася нейкае нацыянальнае. Педагогі гэтага не робяць.

**— Рускамоўныя беларускія драматургі, з якімі я размаўляў, сцвярджаць, што выкарыстоўваюць рускую мову ў асноўным таму, што «вуліца» гаворыць на гэтай мове і ўвядзенне беларускай мовы было б драматургічна-сцэнічным фальшам, не прыстаўшым да рэальнасці.Ты згодны?**

— Гэта спосаб апраўдаць саміх сябе, прытым не вельмі цікавы. І гэта ўсё. Ёсць такі прынцып у прыродзе ў Беларусі: праіснуюць у гісторыі тыя, хто піша на беларускай мове, а тыя, хто піша на рускай мове, хутка прападаюць, знікаюць. Сёння памятаюць Купалу з яго драмамі, або Макаёнка, а Багаслаўскі — пры ўсёй павазе — ужо зараз паступова забываецца. Шмат гадоў таму я працаваў паштальёнам. Я спісваў дыялогі са сваіх гутарак з людзьмі. Некаторыя людзі, з якімі я сустракаўся ў гэтым жыцці, гаварылі на трасянцы, іншыя чыста па-беларуску, але амаль ніхто на рускай мове. Некаторым з нашых драматургаў проста цяжка пераключыць свае мазгі.

**— Чаму Ты ў «Песняра», які мае велізарны поспех на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Максіма Горкага, вырашыў у якасці герояў увесці Янку Купалу, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча і Цётку?**

— Таму што яны нашы беларускія паэты-песняры, якія зрабілі наш народ нацыяй. З іншага боку, Мулявін гэта той, хто ў 1960-1970-х гадах прымусіў зноў звярнуць увагу на беларусаў і на іх як паэтаў, асабліва таму, што ў школьных праграмах мала іх чыталі. На новы спосаб заспяваў іх песні, і ўсе ў Беларусі імі зацікавіліся. У тэатральным плане Мулявін гэта артыст, якому ўжо нічога не хочацца, ён паміж гэтым светам і іншасветам, ужо стаміўся ад свайго пяснярства, ужо не хоча быць песняром. Тады ў яго ўявах паэты-песняры прыходзяць да яго і вяртаюць яму сілу. Яны быццам ягоныя родныя. Мулявіну больш камфортна з імі, чым з сучаснікамі — абы-якімі, шэрымі, якія думаюць толькі пра сваю выгаду.

**— А ці гэта не занадта рызыкоўны прыём, каб у гэтай драме прыраўноўваць Мулявіна і Купалу, і як гэта можна адчытаць са сцэны?**

— На мой погляд, абодва яны роўныя сабе, яны знаходзяцца на тым жа ўзроўні. Я зрабіў такі прыём таму, што музыка Мулявіна па напоры і энергетыцы тоесная вершам Купалы. Мулявін зрабіў то самае сваёй музыкай, што Купала ў свой час вершамі. Купала ўзбударажыў беларускую літаратуру новымі тэмамі, новымі вобразамі, сваім новым нервам. Мулявін у музыцы зрабіў тое ж самае. Нават блізкія яны адзін аднаму ў сваім творчым маўчанні. Быў момант, калі Мулявін не пісаў музыкі, а Купала — вершаў. І нават у тым, што абодва яны пілі, таму што пражывалі, жылі ў напрузе. Акрамя таго, памерлі ў падобным узросце — Мулявіну было 62 гады, а Купалу — 59. Такім чынам, яны вельмі падобныя ў сваім унутраным жыцці і што прыкметна звонку, у жыццёвым і мастацкім плане. Дзве оперы, якія напісаў Мулявін: «Гусляр» і «Песні аб долі» на творы Купалы гэта яснае сведчанне аб іх блізкасці.

**— Ці даходзяць да Цябе галасы незадаволенасці, што на сцэне якраз тэатра імя Максіма Горкага, як кажуць, найбольш рускага тэатра ў Мінску, ставіцца якраз Твой твор, які нагадвае пра беларускія карані, прытым у значнай ступені на беларускай мове?**

— Вельмі рэдка. З маіх назіранняў вынікае, што пераважнай большасці гледачоў вельмі падабаецца, што на сцэне рускага, я падкрэсліваю, рускага тэатра кранаецца так шчыльна беларуская тэма, якой няма ў іншых тэатрах, прытым у спалучэнні беларускай класікі і нейкага роду авангарду. Мулявін — расіянін, які прыехаў у Беларусь і пакахаў беларускасць, у тым ліку беларускую мову. Я спадзяюся, што многія беларусы больш над гэтым задумаюцца. Гэта свайго роду прыклад для ўсіх у Беларусі.

**— Далейшая Твая праца як драматурга таксама збіраецца ісці ў кірунку звяртання да беларускіх каранёў, спасылкі на беларускія каштоўнасці?**

— Звярнуўся да мяне адзін прыватны фонд, які займаецца справамі інвалідаў, якія патрабавалі п’есу пра тое, што інвалід можа функцыянаваць у грамадстве на роўных з іншымі. Я думаў як гэта напісаць, каб там не было такой газетнай банальшчыны. Выдумаў, што ёсць малады рэжысёр, які плануе паставіць прадстаўленне пра Язэпа Драздовіча, толькі што падрыхтаваў няўдалую п’есу і перастаў верыць у сябе. Нечакана з’яўляецца ў яго жыцці дзяўчына, інвалід, якая слаба ходзіць, але вельмі хоча стаць актрысай, і хацела б сыграць у яго п’есе аб Драздовічы і прымушае рэжысёра даць ёй ролю сатурніянкі, якая з’яўляецца ў Драздовіча. Генеральным у ідэі гэтай драмы з’яўляецца тое, што часам мастацтва робіцца пад прымусам. Часам творцу можа не хацецца, але мусяць знайсціся спосабы, каб прымусіць яго да стварання, калі ў ім дрэмле патэнцыял. У гісторыі пераплятаюцца гісторыі Драздовіча, тае сатурніянкі ці паэта Міхася Машары.

**— Так Цябе слухаю, з якім запалам гаворыш пра тое, як узнікала Твая чарговая п’еса, і ці гэта абазначае, што адыходзіш ад іншай творчай дзейнасці, напрыклад, мастацтва?**

— Я не хацеў бы, але калі ўжо малюю, прысвячаю гэтаму ўвесь час. Калі ствараю партрэт, дык калі пачынаю, мушу скончыць яго, і не пакідаць на пасля. Калі я пішу п’есу, толькі ёй прысвячаю свой час. Калісьці я маляваў змрочныя партрэты жанчын, з такімі чырвонымі слязамі, і цікавае для самога сябе тое, якія малюнкі з’явяцца зараз, калі я ажаніўся. Цікава, ці мая творчасць будзе больш светлай, з больш радаснымі партрэтамі жанчын.

У канцы размовы Васіль падарыў мне асобнік новай п’есы **«Сатурніянкі»**, аб якой згадваў у размове. Ён напісаў яе ў перыяд з 6 лютага па 9 красавіка. У падзагалоўку я прачытаў: меладраматычная містэрыя ў дзвюх дзеях з пралогам і эпілогам. Менавіта яна прысвечана Язэпу Драздовічу. У твор Васіль уплёў радкі Янкі Купалы, Міхася Машары і Леаніда Дранько-Майсюка. П’еса цяпер чакае тэатра, у якім адбудзецца яе сусветная прэм’ера — па-беларуску.

**Размаўляў за кубкам кавы і гарбаты, званай чаем**
**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Жыццё да і пасля смерці

**Расказ Ірыны Цішук пра пакутную смерць Ольгі Семянюк і пасмяротную яе памяць быў надта кранальны. Вядома, што захацелася мне дапоўніць той незвычайны сюжэт беражна захаваным здымкам маладой пакутніцы. Тым здымкам, які захоўваў і ў сакрэтным схоўку памяці, і ў сакрэтным схоўку асабістых рэчаў ейны паклоннік з таго перыяду чалавечай біяграфіі, калі душу ахоплівае той незвычайны агонь, які падтрымлівае пульсаванне чалавечай крыві з пакалення ў пакаленне.**

Дамаўляюся спаткацца ў раенскім Вясковым доме культуры, дзе ў ізбе памяці захоўваецца здымак Ольгі Семянюк, захаваны менавіта яе юнацкім паклоннікам і пасля дзясяткаў гадоў перададзены ў Райск ягоным сынам. У ізбу памяці суправаджаюць мяне Ірына Цішук, Яўгенія Шумская і Яўгенія Нікалаюк. Яўгенію Шумскую бачыў я на знятым Юрым Калінам фільме „У нас у Райску", дзе яна паказалася ў ролі лідаркі раенскай жаночай пажарнай каманды. Закарціла мяне спытацца, ці ейныя пажарніцы выязджалі тушыць нейкі стыхійны агонь...

— У нашай пажарнай камандзе галавой мужчыны, а мы — шыяй, — дыпламатычна адказала яна.

А далей расказ пайшоў пра Ольгу Семянюк, якая прыходзілася цёткай Яўгеніі Шумскай.





— A Ola, Ola Maksymiuków też tam była? — spytał Wasia, przytknąwszy prawie swoją twarz do twarzy Nazaruka.

— Była — skinął głową Nazaruk — ostatnią ją przywlekli. Stanęła prosta jak cerkiewna świeca, jak ta zorza piękna, drugiej takiej ja w życiu nie widział. Prosto królewna jaka, nie ukorzyła się, choć już Niemiec w nią mierzył...

— No i...

Mierzy, mierzy i nie strzela. Coś do kamrata krzyknął. Usłyszawszy to starszy, oficer, który z naganem w garści stał i tych w dole dobijał, doskoczył do tego przy karabinie, krzyknął coś. Ja rzucił się przed siebie, byle od tego okropnego miejsca. Skończyło się żyto, a tu Niemiec stał. Zwykły wojak i też do mnie celował jak do psa. Już ja myślał, że po mnie. Niemiec rozejrzał się, zobaczył, że inni nie patrzą, machnął ręką — uciekaj! Mnie nie trzeba było więcej. I dopiero, jak ja był już daleko zaczął strzelać w górę.

Фрагмент кнігі Марыі Шулецкой

Раней у нашай ізбе памяці было 28 здымкаў. А мы, пасля стольkіх гадоў, хаця асталіся на тым пажарышчы, наша пакаленне, шукаем далей. І мы, для прыкладу, калі прыводзім сюды розныя экскурсіі, пры камуністычнай уладзе іх было вельмі многа — цяпер крышку менш, то ўсё пытаемся ўнукаў, праўнукаў: можа дзесь маеце памяткі, можа дзесь захавалі ў сямейных сховішчах. Маем зараз 37 здымкаў. Ужо тыя ўнукі прыносяць нам тыя здымкі — яны так задаволены, што яны знайшлі бабулю, дзедка, прадзеда або прабабку. І тым гісторыкам, якія да нас прыязджаюць, мы паказваем, што праўнукі стараюцца не затраціць тае памяці, каб тая памяць трывала. Тут мы памяшчаем тыя здымкі. Вось нядаўна прынеслі такі здымак царквы з тых часоў, якога мы не бачылі.

Фрагмент эпітафіі на брацкай магіле




Калі ж гаварыць пра Ольгу Семянюк — яна была маладзенька. Згінула яна таму, што браты яе не былі тут, у вёсцы. Было ў яе дзве сястры і трох братоў, у іх ліку мой тата. Былі і нашы правакатары, бо напрыклад мая бабця па маме Марыя Кастэрэва і дзедка Андрэй Кастэрэва загінулі толькі таму, што зяць, значыць мой тата, не быў на тым узгорку, на тым Страшным судзе. Бо перад тым, як у нас здарылася тая трагедыя з немцамі каля могілак, то некаторыя ўжо прадчувалі, што немец будзе нешта рабіць з вёскаю. То татаў сябра, які быў родам з Банькоў, а ў Райску быў у прыступах, забраў тата і маму і нас, дзяцей малых — да Банькоў. А тут асталіся ано бабця з дзедкам. І хтось даказаў, што зяця няма. І за зяця паклалі дзве душы, не азіраючыся, ці то жанчына ці мужчына. Таксама было з Ольгай Семянюк — не было ўсіх ейных братоў тут. І за братоў — яна так маладзенькая была, але вельмі адораная красою. І яна сядзела там абтуленая хусткаю на тым узгорку, дзе адбываўся прысуд — яе немцы ўкінулі да тае групы, якую мелі расстрэльваць. І як загналі — гналі, на каленях цягнулі, бо былі людзі хворыя, цяжка хворыя, якіх павыцягвалі з хат, з ложкаў — і іх цягнулі абы-як — на каленях, за валасы, за рукі — зацягнулі туды, дзе цяпер тая наша магіла, і там адбыўся расстрэл. Ямы былі акружаны. А тады ўжо жыта было вырасла вялікае. Калі б тады людзям хто падказаў, каб кінуліся да ўцёкаў, можа крыху ўцякло б, але ніхто не падказаў. А па-другое — былі так шакіраваны, што сядзелі трупам каля тае ямы. Тут адзін уцёк — Годзіна Пётр. Немцы стралялі так, каб яго не трапіць. Ён уцёк у збожжа. Немцы а фашысты — гэта розныя людзі. Так і гэтая Ольга Семянюк — калі яна сядзела, у яе цэліў малады немец. І той немец, калі яна раскрылася, ён ёй паказваў — ён і гаварыў ёй, але яна не разумела — каб яна ўцякала ў тое збожжа. Але яна не ўцякала, бо ёй можа ногі не ішлі. Гэта пабачыў камандзір таго радавога немца і так стаў яго мучыць, што той мусіў страляць, быццам у яе. Але ён не трапляў. Бо пасля, хаця тая наша магіла была акружана немцамі — самалёты тут ляталі — тыдзень часу нікому нельга было падысці да тае магілы. Але пасля тыдня ейныя браты дайшлі да тае магілы ноччу. Там зямля была патрэскана — кроў выходзіла з зямлі наверх як людзі тыя былі пахаваны. Бо людзі яшчэ жылі, былі там жывыя і паўжывыя, там зямля варушылася, а кроў плыла ручаём. І тыя браты яе адкапалі. Яна сядзела на кукішках і пакуль аддала апошні выдых, яна мела пальцы да паўдалоні абгрызеныя, бо трымала ў роце пальцы. Яе браты выцягнулі і завезлі на могілкі — яна там пахавана, недалёка царкоўкі.

Яна была маладая і мела ўхажора з Грабаўца. Мы толькі цяпер, пасля стольkіх гадоў, пра гэта даведаліся. Яна сябравала з Марыяй Васілеўскай, якой сястра Мручынская Надзя яшчэ дагэтуль жыве. Абедзве былі прыгожыя. Адкуль мы даведаліся пра таго хлопца з Грабаўца? Бо пасля тых усіх гадоў, цяпер, два гады таму з'явіўся да мяне мужчына, майго пакалення. І аказваецца, што гэта сын таго, што хадзіў да гэтай Ольгі Семянюк. Ён зараз жыве ў Беластоку. І ён, калі прыйшоў да мяне і стаў пра тое гаварыць, то мне мароз па скуры пайшоў. А ён кажа: тата ўжо ажаніўся з мамаю, ужо нас меў, а нядаўна памёр. І ён, значыць ягоны тата, так прасіў — што ён, сын, цяпер месца не мог знайсці. Ён прыехаў сюды з дачкою і кажа — я хачу выканаць татаву волю. Тата, хаця з мамаю жыў, нас нажыў, але ніколі не мог забыць тае дзяўчыны. І прасіў даведацца, што з ёю сталася: ці яна згінула, ці яна куды выехала, бо ж нашых дзяцей параскідалі тады, нават па-за граніцамі. Я яго абвяла ўсюды — і на магілу вадзіла, і тут, у майго брата дваюраднага была, якому Ольга таксама як і мне цёткай прыходзілася. І ён сказаў, што знайшоў у бацькавых дакументах здымкі, два здымкі. Але якія тады былі здымкі — маленькія. Ён іх павялічыў і нам прывёз. І кажа: не ведаю, каторы здымак яе. І кажа — я тожа можа буду з гэтага свету адыходзіць і мяне мучыць, бо тата прасіў, каб я ўсё разведаў пра тую трагедыю. Я папрасіла, каб ён нам зрабіў павялічаныя адбіткі тых здымкаў. І мы з братам распазналі Ольгу Семянюк. Ён іх прывёз, быў у нас у час ушанавання гадавіны трагедыі — 16 чэрвеня. Мы зноў усё перажылі нанова. І ён сказаў — я цяпер магу з гэтага свету сысці са спакоем, шчаслівы, што я выканаў татаў запавет, бо тата вельмі гэтага прагнуў.

Здымак-памятка незвычайнай, трагічнай *love story* быў памешчаны на стэнд, дзе відненюць прозвішчы забітых 16 чэрвеня 1942 года раян. Прозвішчаў на стэндзе сто сорак дзевяць, столькі, колькі людзей лягло ў той дзень у брацкую магілу. А здымкаў намнога менш, бо нямногае захавалася з таго часу — Райск жа меў зусім счэзнуць з твару зямлі. У дадатак да тых нямногіх захаваных здымкаў, крышку на абочыне, вісіць памешчаны ў рамкі яшчэ адзін партрэт — гэта іншы партрэт менавіта Ольгі Семянюк. Ён захаваўся ў Храболах, у сына ейнай сястры. Партрэт вісеў на сцяне, але пляменнік перадаў яго ў Райск.

Не толькі два здымкі Ольгі Семянюк захаваліся. У яе захаваліся і дзве магілы: адна, тая брацкая, дзе яна развіталася з гэтым светам, і дзе асталася ейная кроў. І другая, на раенскіх могілках, куды браты перапахавалі ейнае цела.




У хаце ў Яўгеніі Шумскай на ганаровым месцы, на стале ў парадным пакоі два здымкі. Адзін з іх з урачыстасці 50-годдзя сямейнага сужыцця сужонства Шумскіх, якое адзначалася пяць гадоў таму. На другім здымку маладзенькая іх унучка. І твар, і позірк дзяўчынкі на тым здымку ў бабулі і дзядулі такі ж задорны, прамянеючы радасцю расквітаючага жыцця, як і позірк гераіні гэтага расказа. У мяне склалася ўражанне, што Ольга Семянюк, насуперак трагічнаму лёсу, паднялася са сваіх магіл жыць у душах і целах чарговых пакаленняў сваёй уваскрэслай Бацькаўшчыны. Што ейны лёс з'яўляецца адбіткам прысутных у шматлікіх рэлігіях сюжэтаў няспыннага адраджэння жыцця...

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

# Патрон беларускай школы

Беларуская мова, беларускія звычаі і абрады маёй сям'і вельмі блізкія, яны ў нас ад многіх пакаленняў. Мае продкі, вывезены ў час бежанства ў Беларусь, па сённяшні дзень там жывуць. Бацькі размаўляюць на свойскай гаворцы ад дзяцінства. Яны вывучалі беларускую мову ў школе. Мая маці — настаўніца, вучыць цяпер роднай мове ў пачатковых класах. Я вывучаю гэтую мову ў бельскай «Тройцы».

Заўсёды задумваўся, чаму якраз беларуская мова, хто так задбаў пра гэта, каб яна на тэрыторыі Бельшчыны не загінула...

Калі наша школа, не без прычыны, атрымоўвала імя Ярослава Кастыцэвіча, была нагода, каб больш пра яго даведацца.

Многа пра жыццё і дзейнасць гэтага чалавека я прачытаў у «Бельскім гостінцу», але хацеў сам сустрэцца з асобай, якая асабіста ведала Ярослава Васільевіча. І такое здарылася. Я прынёс часопіс у хату. На здымку, які знаходзіўся на вокладцы, быў Кастыцэвіч са сваімі вучнямі. Сярод іх мая маці распазнала бацьку сваёй сяброўкі. Мы паехалі ў Орлю, каб паслухаць успамін пра былога настаўніка.

Валянцін Жабінскі цяпер ужо дзядок, якому больш за 80 гадоў, пасля апаплексічнага ўдару. Аднак пачуўшы прозвішча Кастыцэвіч, ажывіўся і ахвотна пачаў расказваць пра свайго дырэктара тое, што яшчэ засталося ў яго памяці. Першае, што сказаў: «Гэта быў добры чалавек».



Жабінскі паступіў у беларускі ліцэй у восьмы клас. Дырэктар прыхільна ўвеў маладога чалавека ў новае асяроддзе. Разумеў яго сітуацыю — хлопец кожны дзень уставаў рана, ішоў на цягнік на Арлянку, ехаў у Бельск, ішоў у школу, пасля ўрокаў той самай дарогай вяртаўся дамоў.

Валянцін успамінае мілую атмасферу ў ліцэі, добрыя адносіны сяброў, якія не дакучалі яму (ён абмежаваны фізічна) і ахвотна прынялі ў сваю кампанію. Тут усе сабе дапамагалі.

Ярослаў Кастыцэвіч Валянціна вучыў латыні. Да сёння ён памятае, як дырэктар вымагаў скланяць на гэтай мове слова «амор». Не без прычыны выбраў такое слова — яно найбольш прамаўляла да вучняў і лёгка было яго запамятаць. Па сённяшні дзень Жабінскі кажа, што калі разбудзіць яго нават ноччу, ён праскланяе на лацінскай мове слова «амор».

Каб дапамагчы слабейшым вучням у вучобе, дырэктар часта заставаўся пасля ўрокаў. Быў чалавекам энергічным, усё бачыў, на ўсё звяртаў увагу, слухаў вучняў і настаўнікаў. Праблемы рашаў выслухаўшы абодва бакі.

Ярослаў Васільевіч паходзіў з сям'і духоўнага. Дома атрымаў усе прынцыпы добрага выхавання і гэта пераказваў сваім вучням. Хацеў, каб усе паводзілі сябе добра, з пашанай да іншага чалавека. Так сам рабіў і патрабаваў таго ад іншых. Калі вучань не пазнаваў яго, і праходзіў не прывітаўшыся, дырэктар сам першы вітаўся і рабіў сорам яму. Ведалі пра гэта ўсе і да такой сітуацыі не дапускалі. Здаралася, як успамінае Валянцін, што вучань атрымліваў дрэнную ацэнку. На наступны дзень разам з настаўнікам ішоў да дырэктара, каб выясніць прычыну такой сітуацыі. Калі віна была на баку вучня, дырэктар так умеў яго змабілізаваць да працы, што больш такое не паўтаралася.

Валянцін Жабінскі, калі параўноўвае дзве школы ў якіх вучыўся, сцвярджае без ніякіх сумненняў, што ў ліцэі цяжка было, бо ўзровень навучання быў высокі.

Да фізічнай абмежаванасці Валянціна ў 9 класе далучылася хвароба страўніка і праблемы з фізікай. Гэта ўсё прычынілася да таго, што Жабінскі ліцэя не закончыў. Дырэктар аднак так хутка не паддаўся, стараўся на розныя спосабы дапамагчы, але на канец зразумеў, што хлопцу гэта зацяжка. Дапамог знайсці другую дарогу ў жыцці. Валянцін стаў шафёрам. Калі прайшло некалькі гадоў, Валянцін аднойчы спаткаў дырэктара на бензінавай станцыі. Ён першы падышоў да яго, пагаварыў і папрасіў падвезці ў Беразова на фэст. У час падарожжа было відаць, што Кастыцэвічу прыемна бачыць свайго вучня, якога выхаваў на добрага чалавека.

Асаблівую ўвагу Ярослаў Васільевіч звяртаў на падтрымку беларускасці школы і вучняў. Стараўся, каб ліцэй быў заўважаны ў горадзе і акалічных вёсках як самы лепшы, хаця тут вывучалі беларускую мову. Ён часта ездзіў на ровары на фэсты ў блізкія вёскі і там размаўляў з бацькамі і заахвочваў, каб яны сваіх дзяцей пасылалі ў яго ліцэй. Хацеў, каб вясковая беларуская моладзь была адукаваная.

Ва ўспамінах Валянціна Жабінскага пра дырэктара ўсё паўтараліся словы: добры чалавек, памяркоўны, добразычлівы хаця патрабавальны, выклікаў павагу і пашану. Пра такога чалавека, як сказаў, трэба памятаць, успамінаць яго і ставіць у прыклад маладым пакаленням.

Вельмі цешуся, што я вучань школы, патронам якой з'яўляецца такі незвычайны чалавек. Ён — узор для мяне, для таго, каб вывучаць беларускую мову, падтрымліваць беларускія традыцыі, абрады і пераказваць іх наступным пакаленням. Цешуся, што былі, ёсць і, думаю, будуць на Беласточчыне такія людзі, якія не забудуць пра тое, што іх родная мова гэта мова беларуская.

**Якуб ВАЎРУСЕВІЧ**




# http://www.folkmuseum.bsu.by

Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт (БДУ) — адно з найбольш паважаных у беларускай краіне ВНУ. Яно было першым універсітэтам, які адкрыла савецкая ўлада пасля свайго ўсталявання. Беларусы ж атрымалі пасля амаль стагоддзя адсутнасці вышэйшых навучальных устаноў на іх тэрыторыі новы ўніверсітэт, за што, зразумела, былі гэтай уладзе ўдзячныя. Натуральна, што ад пачатку існавання ўніверсітэта вывучалася на ім і беларуская філалогія, а таксама і звязаныя з ёю культура і фальклор. Таму не дзіўна, што філалагічны факультэт БДУ мае ўласны кабінет-музей беларускай народнай культуры, які, акрамя кабінета, валодае ўласным сайтам.

Калі цікаўны карыстальнік набярэ на сваім камп'ютары адрас у інтэрнэце **http://www.folkmuseum.bsu.by,** то перад яго вачыма адкрыецца вельмі прывабнае светла-карычневае выяўленне, якое аздабляюць выявы лялькі ў народным строі, каравая на ручніку і назвы сайта ўверсе пасярэдзіне. У правым верхнім вугле месцяцца сімвалы тых устаноў, што маюць да яго дачыненне — беларускі дзяржаўны герб (бо ўніверсітэт дзяржаўны), герб уласна БДУ і эмблема філалагічнага факультэта. Выйсці на рубрыкі сайта знаходзяцца з левага боку і ўверсе, а ўся інфармацыя падаецца пасярэдзіне.

„На адным з найстарэйшых факультэтаў галоўнай альма-матэр краіны гасцінна адчыніў дзверы фальклорна-этнаграфічны кабінет-музей беларускай культуры, дзе прадстаўлена больш за 300 экспанатаў, сабраных у розных кутках нашай Бацькаўшчыны. Святой апякункай музея была абрана Ефрасіння Полацкая, выява якой упрыгожвае цэнтральную сцяну кабінета", — распавядаецца на галоўнай старонцы.

Згодна пададзенай інфармацыі, адлікам гісторыі музея варта лічыць красавік 2006 года, калі адбылося адкрыццё экспазіцыі „Наша хата" ў рамках канферэнцыі „Фальклор і сучасная культура". „Сёння фальклорна-этнаграфічны кабінет-музей беларускай культуры з'яўляецца, па сутнасці, візітнай карткай філалагічнага факультэта", — сцвярджаецца на галоўнай старонцы, з чаго натуральна вынікае, што мусіць ён весці не толькі працу па захаванні экспанатаў, але і ўшчыльную займацца навукай. „Распрацавана больш 50 маршрутаў па Беларусі для супрацоўнікаў БДУ, замежных студэнтаў-стажораў. Музей аказвае дапамогу школам, ліцэям, гімназіям у падрыхтоўцы экскурсійных маршрутаў у плане вывучэння славутасцей беларускай зямлі", — распавядаецца там.

Дарэчы, уласна пра экскурсіі, што ладзіць музей, можна даведацца на асобнай аднайменнай старонцы, выйсце на якую месціцца з левага боку. Ёсць там і рубрыка „Экспазіцыі", дзе прадстаўлены фотаздымкі экспанатаў, што музей прапануе паглядзець сваім рэальным наведвальнікам.

Кабінет-музей таксама ладзіць тэматычныя выставы. Аб іх ад лістапада 2006 года распавядаецца на старонцы „Выставы". Праўда, невядомым застаецца, ці ладзіць нешта музей у цяперашні час, бо ад снежня 2014 года новыя паведамленні на гэты конт на сайце адсутнічаюць.

З найбольш цікавых для вялікай колькасці беларусаў, пэўна, будзе старонка „Беларускі народны каляндар", дзе расказваецца, між іншым, пра прыкметы для прадказання надвор'я. Навукоўцам, магчыма, была б цікава стужка навінных паведамленняў, датычных музея і ўласна філалагічнага факультэта. Але яна ад леташняга мая не абнаўляецца. І гэта галоўны недахоп багатага па змесце сайта.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

ДАТА З КАЛЕНДАРА



Неабачлівае вяртанне дамоў

# 115 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Жылкі

Беларускі пісьменнік Уладзімір Жылка нарадзіўся 27 траўня 1900 г. у вёсцы Макашы Навагрудскага павета (цяпер Нясвіжскі раён, непадалёк чыгуначнай станцыі Гарадзея). Паходзіў з сялянскай сям'і. У 1914 г. скончыў гарадскую вучэльню ў мястэчку Мір. У Першую сусветную вайну сям'я была ў бежанстве ў Тульскай губерні Расіі. Там скончыў 3 класы агранамічнай вучэльні ў Барадзіцку. Вядома, што ў 1916 г. скончыў пачатковую школу ў Слоніме. У сакавіку 1917 г. разам з бацькам Адамам прыехаў у прыфрантавы Мінск, вучыўся ў сельскагаспадарчай школе.

У кастрычніку 1919 — сакавіку 1920 гг. працаваў настаўнікам у мінскай беларускай пачатковай школе. У гэты час далучыўся да беларускага вызвольнага і культурна-асветніцкага руху, наведваў клуб „Беларуская хатка", пазнаёміўся з Ядвігіным Ш., Янкам Купалам, Змітраком Бядулем, Міхасём Чаротам, Леапольдам Родзевічам. Уступіў у партыю эсэраў. Працаваў аграномам у маёнтку пад Мінскам, якім загадваў Міхась Чарот, надзяляў зямлёй сялян. Быў у падполлі і друкаваўся ў мінскіх газетных выданнях.

У 1919 г. Жылка захварэў на сухоты і, праляжаўшы тры месяцы, урэшце паехаў да сваякоў у вёску Клецішча на Случчыне, а потым пераехаў да дзеда ў вёску Падлессе на Навагрудчыне. Калі гэтая мясцовасць пасля 1921 г. апынулася ў Польшчы, пераехаў у Вільню. Працаваў там у беларускай кнігарні, апекаваў разам з Родзевічам створаную ў Віленскай беларускай гімназіі тэатральную майстэрню. Пісаў вершы. Каб пазбегнуць прызыву ў войска Жалігоўскага, летам 1922 г. выехаў у Коўна. Потым пераехаў у Латвію, там наведваў выпускны клас Беларускай гімназіі ў Дзвінску. Быў сувязным паміж віленскім і ковенскім цэнтрамі беларускага вызвольнага руху і беларускімі суполкамі Балтыі. У канцы 1922 г. нелегальна вярнуўся ў Вільню, дапамагаў Родзевічу ў апрацоўцы артыкулаў для газет „Наша будучыня" і „Новае жыццё".

У 1926 г. выехаў на вучобу ў Чэхаславаччыну, стаў стыпендыятам чэхаславацкага ўрада. Вучыўся на філалагічным аддзяленні філасофскага факультэта Карлавага ўніверсітэта. Адзін з ініцыятараў стварэння Арганізацыі беларускага прагрэсіўнага студэнцтва, сябраваў з яго старшынём Ігнатам Дварчаніным, дапамагаў у выданні органа гэтай арганізацыі — часопіса „Перавясла". Таксама рэдагаваў часопіс „Прамень". Да 1926 г. Уладзімір Жылка жыў у Празе.

У 1926 г. прыехаў у Мінск на Акадэмічную канферэнцыю па рэформе беларускага правапісу. Неабачліва пастанавіў прыняць савецкае грамадзянства і застаўся ў БССР. Выйшаў з партыі эсэраў. У Савецкай Беларусі спачатку працаваў у Інбелкульце, потым у газеце „Беларуская вёска". З 1927 г. — загадчык аддзела літаратуры газеты „Звязда", выкладаў беларускую літаратуру ў Мінскім музычным тэхнікуме. Быў членам літаратурных аб'яднанняў „Маладняк" і „Узвышша". У 1928 г. выключаны з „Маладняка" за неадпаведнасць пралетарскай літаратуры, працягваў друкавацца ва „Узвышшы"; з прычыны ідэалагічнага ціску змушаны пакінуць „Звязду". Працаваў перакладчыкам у Белдзяржкіно, працягваў выкладаць замежную літаратуру ў музычным тэхнікуме. Сябраваў з Язэпам Пушчам, Уладзімірам Дубоўкам, Адамам Бабарэкам.

У ліпені 1930 г. у час рэпрэсій быў арыштаваны, асуджаны да 5 гадоў высылкі. Адбываў яе ва Уржуме Кіраўскай вобласці (Расія). Памёр ад сухотаў 1 сакавіка 1933 г.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

AKSAMITNY LETNI WIECZAR

ПАТАНЦОЎКА POTAŃCÓWKA

7 ЧЭРВЕНЬ 2015 г. гадз. 18.00

БЕЛАСТОК, Пляцоўка побач з Беластоцкім Лялечным Тэатрам

Патанцоўка пад музыку калектываў: **Гай і Чэрэмшына**

7 CZERWCA 2015 r. godz. 18.00

BIAŁYSTOK, Plac obok Białostockiego Teatru Lalek

Potańcówka przy muzyce zespołów: **Haj i Czeremszyna**



# У Чаромсе на рыначку



Наведаў я чаромхаўскі рыначак. Было гэта ў пятніцу, 15 траўня. Наведвальнікаў хоць адбаўляй — і купцоў, і пакупнікоў. Гэтыя апошнія гуртаваліся пры латках з саджанцамі памідораў, агуркоў, расады капусты, пэрэю і кветак. Вядома, што пасля „агароднікаў" і халоднай „Зоські" час забрацца за пасадку ў дамашнім агародчыку. За саджанец памідораў прасілі 1,50-2 зл., звязку парэю, капусты — 0,80-1 зл., пучок свежай радыскі — 1,50 зл, галоўку салаты — 2 зл. За мінулагоднюю бульбу цанілі 10 зл. за 15-кілаграмовы мяшочак. Можна было тут купіць маладых курачак — 15 зл. за штуку. Збожжавыя культуры цаніліся: пшаніца — 80 зл. за цэнтнер, ячмень — 70 зл., авёс — 50 зл. На прадвесні чарамшанам не трэба ўжо ехаць на сельскагаспадарчы кірмаш у Кляшчэлі. Купцы патрэбныя рэчы прывязуць на месца, хоць за большую цану. У рыначнай эканоміцы за паслугу трэба плаціць. Такая ўжо праўда...

**Уладзімір СІДАРУК**

# Прыклад варты пераймання

Праўленне рады Гайнаўскага павета прад'явіла заяву панізіць на 5% кошт сутачных сваім радным. Такое абавязацельства прыняла новаабраная Рада павета ў час самаўрадавых выбараў 2014 года. Заява была разгледжана на пасяджэнні праўлення. „За" прагаласавала дзевяць членаў, шэсць было „супраць", адзін стрымаўся ад голасу. Пастанова была прынята на апошняй сесіі Рады павета. Паводле новых ставак старшыня Рады павета атрымае 1 585 зл. (раней было 1 669 зл.), затым адпаведна: намеснікі старшыні — 951 зл. (1001 зл.), члены праўлення — 1356 зл. (1428 зл), намеснікі старшыні камісіі — 880 зл. (927 зл.), звычайныя радныя — 792 зл. (834 зл.). Варта адзначыць, што паніжэнне сутачных радным разважалася ў Гарадской радзе Гайнаўкі. Але безвынікова. Шуму многа, вынік мізэрны. На маю думку, рашэнне Рады Гайнаўскага павета, гэта прыклад варты пераймання. Хацелася б, каб такія ластаўкі прыляталі да нас не толькі на прадвесні, але штодзень.

**(ус)**

# Канцэрт над возерам

У суботу, **6 чэрвеня** гэтага года Гмінны асяродак культуры ў Нараўцы (Гайнаўскі павет) запрашае на першы сёлетні канцэрт музычных калектываў у прыгожым амфітэатры ў Старым Двары на беразе Семяноўскага возера. Зайграюць і заспяваюць „Арт-Пронар" і „Рэтра-бітс".

Пачатак мерапрыемства а 18-й гадзіне.

**(яц)**

# Адгаданка

1. народны сход у дрыгавічоў або люцічаў, 2. жыхарка Каліфорніі або Фларыды, 3. пакаленне старэйшае за дзяцей, 4. шахматнае царазабойства, 5. сталіца на Вісле, 6. сталіца на Ніле, 7. накладка на твар у... сталіцы Амана.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская прымаўка.

(ш)

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | | | | |
| | | | | | 2 | | |
| 3 | | | | | 4 | | |
| | | 5 | | | 6 | | |
| 7 | | | | | | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на адгаданку з 19 нумара

Века, дына, Зея, ліха, суш, узор, уюн, Чыта.

Рашэнне: **Чорную душу і залаты язык не схавае**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 31.05 — 06.06

**(22.03. — 20.04.)** Акажы партнёру адабрэнне. Гэта ўзмоцніць вашу сувязь, падмацуе пачуцці. Дома час спакойны і прыемны; аддай больш часу дзецям. Худзей і практыкуйся. 4-8.06. дасі рады кожнаму выкліку, падмацуецца твая прадпрымальнасць, кінься на глыбокую ваду — мураваны поспех!

**(21.04. — 21.05.)** З 5.06. адчуеш вялікую самаўпэўненасць, адолееш складаныя справы. 2.06. пільнуйся з кім размаўляеш, каб не выкарыстаў тваіх сакрэтаў; не пазычай нікому грошай. Не адмаўляйся ад сустрэч, маеш шанц пазнаёміцца з кімсьці, хто зменіць тваё жыццё. Засяродзься на добрых рысах свайго партнёра, ад 5.06. акажа ён табе клопат і чуласць. Перад табою месяц клопатаў і нялёгкіх спраў, дзе трэба будзе паказаць характар і гарт.

**(22.05. — 22.06.)** У пастаяннай пары карыстайся добрай аўрай; маеш шанц узмоцніць сувязь. У сардэчных справах будзь больш рашучым. Падмацуй форму праверанымі спосабамі — добра высыпайся, еж кашы, гародніну, садавіну, займайся гімнастыкай. На працы і ў фінансах зважай на няшчырасць. З 4.06. (да 8.06.) знакаміты час на адважныя і смелыя прыёмы; будзеш у выдатнай форме, здабудзеш тое, што хочаш.

**(23.06. — 23.07.)** Заплануй выезд з сям'ёй. Па-за домам сустрэне цябе штосьці, што адменіць жыццё на лепшае. Вельмі дбай аб сваё здароўе і не дай схіліцца да таго, ад чаго заўсёды ты бараніўся, інакш за сваю мяккасць заплаціш вялікую цану. З 5.06. ажыўленне ў пачуццях, вяжучыя дэкларацыі. У чэрвені добра сесці на дыету ці ачысціць арганізм — прынясе гэта відныя рэзультаты. Але ўвесь месяц не насі з сабою грошай і пільнуй кашалька!

**(24.07. — 23.08.)** Каля 2.06. не думай аб забеспячэнні будучыні, бо з-за моцных эмоцый твае рашэнні будуць памылковыя і цяжка будзе пасля ад іх адмовіцца (не інвестуй, не рабі капіталаўкладанняў). Дазволь дзейнічаць лёсу. У пачуццях найважнейшая сіметрыя. Форма ненайлепшая ў першай палове месяца. З 5.06. надгоніш свае кампанейскія хвасты, адновіш кантакты, наладзіш вельмі цікавае знаёмства.

**(24.08. — 23.09.)** Не раздзірай мінулага і не сумуй. Задбай аб сябе, каб быць гатовым на новае. Самотная Дзева няхай зробіць стаўку на сяброўства. Сустракайся з людзьмі. Сур'ёзная атмасфера дома рассветліцца 4-8.06. Чэрвень можа мінуць табе на змаганні з лішняй вагай. Першыя два тыдні тваю энергію падмацоўвае Сонца — добры момант на новыя выклікі, змену працы, крэдыты.

**(24.09. — 23.10.)** 1-3.06. усвядоміш, што не ўсё залежыць ад цябе. 4-8.06. разлічвай на плённыя кантакты з кіраўніцтвам, паразмаўляй аб павышэнні. У пачуццях не бяры ўсяго да сябе. У чэрвені будзеш вельмі актыўны, нават лішне, што не заўсёды спадабаецца твайму арганізму — прытармазі, адпачні. Цяпер не разлічвай на відны прыліў грошай, гаспадаруй тым што маеш. У чэрвені не бяры абсалютна НІЯКІХ пазык і не згаджайся на ніякія фінансавыя абавязацельствы!

**(24.10. — 22.11.)** 2.06. чэрвеня неспакой, трывога, здарэнні, на якія ты не гатовы, раптоўныя рашэнні; трымай нервы на павадку і пільнуй кашалька. 5.06. прадказваюцца поспехі на працы, мілыя здарэнні і мноства прыемнасцей; найбольш уцешаць цябе фінансавыя прыбыткі. Многа будзе адбывацца ў тваім кампанейскім жыцці. Увесь чэрвень фантастычны настрой. На працы ўсё плануй і ўсё дакладна рыхтуй.

**(23.11. — 22.12.)** Маеш шанц пазнаёміцца з асобай, з якой спалучыць цябе сапраўднае каханне. У пары час любоўнага ўздыму. Планеты таксамаададуць табе красы, мілавіднасці і чару. Адновіш знаёмства з даўно нябачанымі знаёмымі ці сваякамі. Будзе біць з цябе энергія і нястрашныя будуць інфекцыі ці хваробы.

**(23.12. — 20.01.)** Нічога не фарсіруй сілай у пары. Стабілізацыя і спакой. Падпісвай дамовы, наладжвай супрацоўніцтва на карысных для цябе ўмовах. Чэрвень пад знакамі духоўнага развою, унутранага аднаўлення.

**(21.01. — 19.02.)** Магчымыя праблемы на працы; блізкая табе асоба не падтрымае цябе або адмовіцца ад абяцанага. Не рызыкуй з закаханнем. Сярод сяброў і сям'і будзеш спалучаць карыснае з прыемным. Пільнуй сваёй дыеты. Можа ў табе адкрыцца ўмеласць аздараўлення іншых — і духоўнага, і цялеснага, але сілай нікому не дапамагай.

**(20.02. — 21.03.)** 1-3.06. можа штосьці не пайсці згодна з тваім чаканнем, і ў гэтыя дні — горшая кандыцыя. Але Венера гарантуе табе папулярнасць. У Рыб у пастаянных парах чэрвень поўны непаразуменняў і анімозій, таму не распальвай канфліктаў. Слухай парад, карыстайся тым, што дасягнуў да гэтай пары і не марнуй часу на бясплённыя дзеянні.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня:** Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet:** *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail:** *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня:** „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł, roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7.00 – 18.00.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1300 egz.

# У палескай глыбінцы (3)

У нас многа духавенства душой за Украінай, а фармальна прыналежыць Маскоўскаму патрыярхату. Яны чакаюць зручнага моманту, каб аб'яднацца, перайсці пад Кіеўскі патрыярхат. Усё можа змяніцца цягам адной секунды, — кажа святар Расціслаў Дзідок.

На ўкраінскую літургію ў Спаса-Праабражэнскую царкву я патрапіла проста з вуліцы. Яна знаходзілася ў блізкім суседстве гасцініцы «Лясная песня». Гэта была старая, драўляная хатка з агародчыкам, прыаздобленая аркай і праваслаўнымі крыжамі. Раней я паспрабавала распытаць у жанчын з адміністрацыі. Яны маглі асвятліць любую тэму, ведалі ўсе навіны і плёткі ў Ковелі. На пытанне пра царкву яны паціскалі плячыма і паўтаралі:

— Мы іх не ведаем!

Для мяне гэта быў штуршок і падказка, каб схадзіць на месца і пабачыць, што там адбываецца.

* * *

Раніцай у нядзельку прыйшло ўнушальнае запрашэнне. З таго боку, дзе будынак, даходзілі цёплыя царкоўныя напевы, званілі званы. Я закінула на спіну рукзак і адправілася ў царкву. Перад уваходам у будынак у вочы кінуўся задбаны агародчык. У ім квітнелі разнаколерныя браткі. Такія дэталі-краскі шмат гаварылі пра ангажаванасць парафіянак. На задбаных градках быццам застыла мацярынская пяшчота. Пасля, калі я пераступіла парог, таксама здзівілася. Сярэдзіна храма напамінала квітнеючы агародчык. Праўда, замест вясновых браткаў тут выстойвалі восеньскія «вяргіні» ў разнаколерных хустках.

— У вас якая царква? — спытала я жанчыну за прылаўкам са свечкамі, размешчаным у мініяцюрным ганку.







— Праваслаўная, украінская, — пачула я ў адказ.

Апошняе паведамленне несла ў сабе яшчэ дзве недагавораныя інфармацыі, карацей кажучы, гэтая царква прыналежала Кіеўскаму патрыярхату і афіцыйна лічылася нekананічнай.

— Можна да вас на багаслужбу?

— Калі ласка, заходзьце. У нас дзверы для ўсіх адкрыты, — пачула я ў адказ знаёмы лозунг.

Аднак перш чым апынуся ў цёплай, спавітай адухоўленымі спевамі сярэдзіне, мяне абдаруюць васільковым шалем і, згодна з прынятым этыкетам, скажуць навязаць яго на галаву.

* * *

Да гэтай пары я не мела рэальнага паняцця пра ўкраінскую царкву. Калі кіравацца крамлёўскай прапагандай, тут павінны выстойваць адны мужыкі ў вайнізаванай форме. У сапраўднасці ўсё выглядала наадварот, у сярэдзіне маліліся бабулі, маладзіцы, цёткі свойскай гадоўлі. Царкоўны староста, адзіны з нямногіх прадстаўнікоў мужчынскага полу, быў апрануты ў вышыванку.

Хоць больш за ўсё ўражваў дамарослы інтэр'ер царквы, райскія дзверы тут прыаздаблялі каляровыя навагоднія лямпкі. Іх мігаценне наклікала раз калядны, іншы раз велікодны настрой. Увесь прастол быў абстаўлены чырвонымі цюльпанамі з хатніх агародчыкаў. Атмасферу месца выдатна папаўняў жаночы хор, за якім спявала ўся царква. Цёплы, адухоўлены спеў кранаў і далікатна калыхаў душу. Ён яшчэ патрапляў у глыб свядомасці ды напамінаў штосьці знаёмае з далёкага мінулага.

У гэтую нядзелю царква святкавала памяць жанчын-міраносніц. Гэты дзень у многіх прыходах адзначаюць як праваслаўны жаночы дзень. З нагоды свята ў царкве былі адмысловы торт і кубкі з шампанскім. Яшчэ перад салодкім пачастункам айцец Расціслаў прывітаў сваіх парафіянак найпрыгажэйшымі словамі. Увесь жаночы род ён назваў самым адважным і верным родам чалавечым.

— Калі самыя верныя вучні здрадзілі Хрысту і разбегліся ў вялікім жаху, вы адзіныя не пабаяліся і выстаялі да канца!

Вельмі падабаліся мне гэтыя словы і пачастунак. У мяне склалася ўражанне, што ў Спаса-Праабражэнскім прыходзе ўсе ўсіх ведаюць па імені і прозвішчы.

— Для нас мала істотная форма, — кажа парафіянка і харыстка ў адной асобе спадарыня Оля, — для нас найважнейшая існіна. Царква гэта не сцены, не золата, не купалы ...

(працяг будзе)

Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК

ISSN 0546-1960